



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

28 кастрычніка 2016 года №44 (1122)



**Як правільна захоўваць прадукты**

старонка 3

**Даганяла зладзеяў, якія скралі тэлевізар**

старонка 4

**Суд: кожны пяты развод заканчваецца прымірэннем**

старонка 20

**Дырэктар Чысцінскай сярэдняй школы з дзецьмі вітаецца за руку**

**Конкурс "Дзясятачка" падводзіць вынікі**

старонка 5

**Тут добрыя людзі і разумныя дзеці: гімназію №10 наведалі кітайцы**

старонка 21


# У АСТРАЎЦЫ ЗРАЗАЮЦЬ СТАРЫЯ ДУБЫ

**А вы ведаеце, колькі каштуюць экалагічныя паслугі гэтых дрэў?**

старонка 2

Калаж allsumke.ru.

ТЭМА НУМАРА

# Адам Мальдзіс: тыя, хто прыняў рашэнне зразаць дубы ў Астраўцы, зусім не ведаюць гісторыі

АСТРАВЕЦ

**Некаторыя з жыхароў Астраўца абураюцца, што ў іх горадзе зразаюць старыя дубы. Робяць гэта ў сувязі з тым, што горад разбудоўваецца.**

А ўраджэнец Астраўца прафесар **Адам Мальдзіс** заявіў, што дэманстратыўна адмовіцца ад звання ганаровага грамадзяніна Астраўца, калі ў горадзе зрэжуць старыя дубы. У гэтым будзе яго своеасаблівы пратэст супраць дзеянняў мясцовых уладаў.

Адам Мальдзіс распавёў карэспандэнтам "Рэгіянальнай газеты", што дубы для Астравеччыны – дрэвы асаблівыя:

– Вы не задумваліся, чаму дуб намаляваны на гербе Астраўца? Бо гэта дрэва – сімвал каралеўскай улады. Дубы садзілі ў важныя гістарычныя моманты.

Па словах прафесара, дарогу, што вяла з Вільні ў Астравец, называлі каралеўскай. Уздоўж яе садзілі дубы.

А яшчэ сам кароль Жыгімонт загадаў пабудаваць на каралеўскай дарозе карчму. Чаму? У Астравец, упэўнены Мальдзіс, кароль ездзіў даволі часта.

Вось чаму ні ў адным мястэчку і горадзе Беларусі, лічыць прафесар, няма столькі дубоў.

Тут працаваў **Францішак Скарына**. Верагодна, першадрукар стварыў тут першую беларускую Канстытуцыю – Статут 1529 года. У той час Скарына працаваў у біскупа **Яна** – пазашлюбнага сына польскага караля.

Адам Мальдзіс добра памятае тыя дубы, што раслі ля маёнтка віленскага ваяводы **Альбрэхта Гаштаўта:**

– Хлопцам я кожны дзень хадзіў ля гэтых старых раскідзістых дубоў у школу і са школы. Праўда, у той час яшчэ не ўсведамляў іх гістарычнай каштоўнасці для Астраўца і для Беларусі ўвогуле.

Тыя, хто прыняў рашэнне зрэзаць дубы, абсалютна не ведаюць гісторыі, упэўнены Адам Мальдзіс.

Некалі прафесару Мальдзісу прысвоілі званне ганаровага грамадзяніна Астраўца. Але адпаведны дакумент так і не ўручылі, бо тады якраз мяняўся старшыня райвыканкама.

– Калі ў Астраўцы ссякуць дубы, я не буду забіраць тыя дакументы і адмоўлюся ад звання ганаровага грамадзяніна горада.

## У астравецкай інспекцыі аховы прыроды каментуюць зразанне дубоў

Супрацоўнікі інспекцыі аховы прыроды і навакольнага асяроддзя ў Астраўцы распавялі, што дрэвы можна зразаць у наступных выпадках. Папершае, калі яны стаяць ва ўласным двары. Тады гаспадару не трэба ніякіх дазволаў.

Па-другое, калі дрэвы хворыя, у дрэнным стане і яны могуць пашкодзіць пабудовы, аўтамабілі, з'яўляюцца небяспечнымі для людзей.

І трэці выпадак – якраз той, які мы маем у Астраўцы. Спілоўванне дрэў прадугледжанае ў праектнай дакументацыі.

– Мы не прымаем удзел у распрацоўцы праектаў забудовы, – адказалі ў інспекцыі па ахове прыроды. – Калі мы бачым, што дрэва зразаюць, мы можам падысці і спытацца, ці ёсць на гэта дазвол. А ў дадзеным выпадку такім дазволам і з'яўляюцца праектныя дакументы.

## Ні заказчыкі, ні праекціроўшчыкі не думаюць пра дрэвы

Прадстаўнік кампаніі "Гарадскі ляснічы" экалагічнага таварыства "Зялёная сетка" **Ігар Корзун** мае ўласную думку на гэты конт.

Мужчына прызнаецца, што не меў часу займацца пошукамі плана забудовы. А людзі, якія былі гэтым заклапочаныя, так і не маглі яго знайсці.

Безумоўна, каб выказваць нейкія прэтэнзіі, кажа Ігар, трэба мець аргументы.

Але падобныя сітуацыі, па яго словах, здараюцца па ўсёй краіне. Ні заказчыкі, ні праекціроўшчыкі не ўлічваюць чамусьці зялёныя насаджэнні на тэрыторыі будучых будынкаў.

Пасля пытаешся ў праекціроўшчыкаў, чаму яны не склалі праект так, каб захаваць дрэвы, яны адказваюць, што гэта не ўваходзіла ў іх задачу. Такі самы адказ даюць і заказчыкі.

Пакуль ад уладаў не будзе распараджэння пра ўлік дрэў пры планаванні забудовы, гэты абавязак так і будуць штурхаць адзін аднаму.

Кажуць, што перарабіць праект – гэта грошы і час. Але чаму ніхто не думае пра тое, што дрэвы нейтралізуюць шкодныя рэчывы. Гэта таксама грошы, і немалыя. Іх чамусьці не ўлічваюць.




Удзельнікі экспедыцыі "Шляхам Тышкевіча-2009" даследуюць старыя дрэвы.

**Можна вылічыць нават кошт экалагічных паслуг дрэва. Напрыклад, для таполі з абхватам 3 метры 20 сантыметраў і вышынёй 20 метраў гэты кошт складае 300 еўра на год.**

## Райвыканкам: сітуацыю кантралюем

Намеснік старшыні Астравецкага райвыканкама **Віктар Зелянко** патлумачыў, што спілавалі два дубы. Яны заміналі будаваць дарогу. Ёсць зацверджаны праект, паводле якога дубы і павінны быць спілаваныя.

Нічога страшнага не адбываецца, лічаць у райвыканкаме. Па словах Віктара Зелянко, па пытаннях забудовы яшчэ будуць збірацца ў райвыканкаме. Усім жыхарам, якія звярталіся ў райвыканкам па гэтай сітуацыі, рыхтуюць афіцыйныя адказы.

Пра заяву Адама Мальдзіса, кажа намеснік старшыні, тут не чулі.

## А што вядома пра старыя дрэвы ў іншых гарадах рэгіёна?

З гэтым пытаннем мы звярнуліся ў краязнаўчыя музеі Вілейкі і Маладзечна.

Па словах навуковага супрацоўніка Вілейскага краязнаўчага музея **Надзеі Аўдзей**, на Вілейшчыне адно з самых старых дрэў – елка-"слонік" у вёсцы Сакавічы. "Слонікам" яе назвалі, бо падобная да гэтай жывёлы. А навуковая назва – "елка каскадная".

Дрэва ў пачатку 20 стагоддзя пасадзіў мясцовы пан. Яму гэту елку прывезлі з-за мяжы.

Супрацоўнікі батанічнага сада спрабавалі, узяўшы насенне, пасадзіць такую ж у сябе. Аднак дрэва там не прыжылося.

Шмат легендаў звязана і з дрэвамі вілейскага парку. Асабліва старыя тут бярозы. Верагодна іх пасадзілі на мяжы 19-20 стагоддзяў. У парку ёсць дзве бярозы, якія зрасліся разам. На гэтым дрэве, казалі людзі, у часы Вялікай Айчыннай вайны фашысты мучылі аднаго доктара. Да нядаўняга часу там яшчэ тырчалі штыры, на якіх вісеў небарака. Але ніякіх дакументальных пацвярджэнняў гэтаму выпадку няма.

Па словах супрацоўнікаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея, у Маладзечне самыя старыя дрэвы – на скрыжаванні вуліцы Гарадоцкай і Вялікага Гасцінца, ля корпуса былога 21 вучылішча. Але калі іх пасадзілі, у музеі не сказалі.

У 1940-х гадах пачалі садзіць гарадскі парк. Калі рабілі штучныя вадаёмы, там спілавалі некалькі старых дубоў.



**ДАВЕДКА "РГ". Адам Мальдзіс** – беларускі літаратуразнаўца, гісторык, пісьменнік, журналіст, доктар філалагічных навук (1986), прафесар (1990), аўтар шматлікіх кніг па літаратуразнаўстве. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Расолы на Астравеччыне.
У друку з артыкуламі і рэцэнзіямі пачаў выступаць у 1954 годзе. Даследуе гісторыю беларускай культуры і літаратуры 17-19 стагоддзяў, беларуска-польскія і беларуска-літоўскія літаратурныя ўзаемасувязі.
Узнагароджаны медалём Францішка Скарыны і іншымі медалямі, чатырма польскімі ганаровымі адзнакамі. Заслужаны дзеяч польскай культуры (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1980).



**Аксана ЯРАШОНАК**
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)



Карысная ежа робіць чалавека бадзёрым і жыццярадасным. Фота mama.ua

# Як правільна захоўваць прадукты

МАЛАДЗЕЧНА

**По ўменні захоўваць дома прадукты можна меркаваць пра сучасную гаспадыню.**

Часта халадзільнікі "забіваюць" прадуктамі і забываюцца пра тэрміны іх выкарыстання. У выніку прадукты губляюць не толькі смак, але і карысць.

Вядома, нельга дапускаць, каб у доме за што ні схопішся – усё скончылася. Але і рабіць бессэнсоўныя запасы не трэба.

Гігіенічныя патрабаванні да захоўвання прадуктаў простыя і даступныя кожнаму. Але калі ім не надаваць увагі, ежа можа стаць прычынай хваробы і атручэнняў.

Умовы і тэрміны захоўвання прадуктаў залежаць ад віду прадукту і спосабу яго апрацоўкі. Прадукты не варта ўжываць пасля даты, пазначанай на ўпакоўцы.

Любая ўпакоўка на прадукце не з'яўляецца чыстай. Прадукт выкладалі на паліцу ў магазіне. Магчыма, пакупнік да вас цікавіўся гэтым прадуктам, але патрымаў у руках і вярнуў на месца. Пасля прадукт бралі на касе. Плюс да ўсяго пыл, дотык да торбы. І гэты спіс можна працягнуць.

Таму ўсе набытыя прадукты, якія вы збіраецеся захоўваць у халадзільніку, павінны быць чыстымі. Напрыклад, пакет з малаком – вымыты, выцерты насуха і толькі пасля гэтага пакладзены ў халадзільнік.

На прадуктах часам з'яўляецца цвіль. Яна можа быць на хлебе ў цэлафанавым пакеце, на варэнні. Часам такі прадукт выкарыстоўваюць. Людзі ўпэўненыя, што іх здароўю гэта не пашкодзіць. Ведаюць, што з некаторых відаў цвілі робяць антыбіётыкі.

Некаторыя цвілі сапраўды могуць быць адносна бясшкодныя. Але пэўная іх частка мае моцныя таксічныя ўласцівасці. Таму рызыкаваць не варта.

Захоўвайце хлеб і хлебабулачныя вырабы ў ёмістасцях, якія прапускаюць паветра. Раз у тыдзень мыйце хлебніцы 1% растворам воцату.

Для захоўвання хлеба лепш выкарыстоўваць спецыяльныя хлебніцы. Хлеб у поліэтыленавых пакетах менш высыхае, але з'яўляюцца староннія пахі. Хлеб вільгатнее. Таму класці яго ў такія пакеты лепш на непрацяглы час.

Муку, крупы, макарону, цукар трэба захоўваць у спецыяльных ёмістасцях з накрыўкамі ў памяшканнях, якія добра праветрываюцца. Гэтыя прадукты лёгка ўспрымаюць і доўга ўтрымліваюць староннія пахі. Рабіць вялікія запасы такіх прадуктаў не варта. Лепш абнаўляць іх па меры выкарыстання.

Пры доўгім захоўванні тлушчаў іх варта засцерагаць ад святла, паветра, цяпла.

Асаблівую ўвагу трэба звяртаць на прадукты, якія хутка псуюцца. Гэта мясныя, рыбныя, тварожныя і агародніннія паўфабрыкаты, кулінарныя вырабы з крыві свойскіх жывёл і субпрадуктаў, малако і малочныя прадукты, ліверныя кілбасы, паштэты, халадзец, некаторыя віды кандытарскіх вырабаў.

Пры доўгім захоўванні гатовай ежы ў цёплым месцы на ёй размнажаюцца не толькі бактэрыі, якія выклікаюць атручэнне, але і звычайныя мікробы гніення.

Нярэдка можна атруціцца мясам жывёл дамашняга забою. Часта жывёл забіваюць у антысанітарных умовах, у хляве, у двары. Не заўсёды ёсць гігіенічныя прылады, робяць усё бруднымі рукамі. Акрамя таго, жывёлы могуць быць хворымі. Ні ў якім разе нельга купляць мяса без кляйма ў прыватных асоб.

На кухні заўсёды павінна быць чыста. Перш чым рыхтаваць ежу, трэба старанна вымыць рукі. Апрацоўвайце сырыя і вараныя мясныя, рыбныя прадукты і агародніну на розных дошках і розным інструментам.

Захоўвайце сырыя і вараныя прадукты ў халадзільніку толькі паасобна. Сырыя прадукты кладзіце ніжэй за вараныя. Інакш кроў, сок з сырых прадуктаў могуць патрапіць на вараныя, і яны сапсуюцца.

Супы пры паўторным падагрэве абавязкова кіпяціце на працягу некалькіх хвілін. Рабіце тэрмічную апрацоўку вараных прадуктаў перад тым, як падаць на стол. Напрыклад, мяса трэба пракіпяціць у вадзе, соусе або булёне. Рыбу і сырнікі прасмажыць.

Уважліва аглядайце кансервы. Калі бляшанка надзьмулася, неадкладна выкідайце. Адкрытыя кансервы для далейшага захоўвання трэба перакладаць у іншы посуд. Пад дзеяннем кіслароду металічныя бляшанкі ржавеюць. Карозія пераходзіць на прадукт.

Нельга захоўваць на кухні староннія хімічныя рэчывы, каб па памылцы не выкарыстаць іх для прыгатавання ежы.

Не ўжывайце для мыцця посуду пральныя парашкі.

Звяртайце ўвагу на пластмасавы посуд і ўжывайце яго толькі па прызначэнні. Напрыклад, у ім нельга марынаваць або саліць прадукты.

Смачная, карысная і ўмераная ежа робіць чалавека бадзёрым і жыццярадасным.

Чалавек, які парушае ўмовы захоўвання прадуктаў, падвяргае сябе і блізкіх небяспецы. Бо харчовыя атручэнні, як правіла, працякаюць цяжка і з сур'ёзнымі ўскладненнямі.

**Таццяна КУГАРА, доктар-гігіеніст аддзялення гігіены харчавання аддзела гігіены.**



| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 20.10 | 27.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9113 | **1,9017** |
| Еўра | 2,1018 | **2,0744** |
| Злоты, 10 | 4,8979 | **4,8081** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0592 | **3,0547** |
| Грыўня, 100 | 7,4766 | **7,4147** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 26.10** | | |
| Еўра | 2.0900/2.1150 | **2.0400/2.0730** |
| Долар ЗША | 1.9000/1.9200 | **1.8800/1.9020** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 19.10 | | 26.10 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 59 000 | 5,90 | 59 000 | 5,90 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 36 500 | 3,65 | 36 500 | 3,65 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | 7,50 | 75 000 | 7,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 500 | 4,15 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 131 000 | 13,10 | 135 000 | 13,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 500 | 1,55 | 15500 | 1,55 |
| Грэчка, 0,8 кг | 23 500 | 2,35 | 23 500 | 2,35 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 14 000 | 1,40 | 14 000 | 1,40 |
| Алей "Фермер", 1 л | 25 000 | 2,50 | 25 000 | 2,55 |
| Маянэз, 200 г | 6 500 | 0,65 | 6 500 | 0,65 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 45 000 | 4,50 | 45 000 | 4,50 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 500 | 0,55 | 5 900 | 0,59 |
| Часнок, 1 кг | 72 000 | 7,20 | 70 000 | 7,00 |
| Капуста, 1 кг | 2 500 | 0,25 | 2 500 | 0,25 |
| Морква, 1 кг | 4 500 | 0,45 | 4 900 | 0,49 |
| Баклажаны, 1 кг | 10 000 | 1,00 | 19 500 | 1,95 |
| Лімоны, 1 кг | 37 000 | 3,70 | 30 000 | 3,00 |
| Апельсіны, 1 кг | 35 500 | 3,55 | 39 500 | 3,95 |
| Мандарыны, 1 кг | 43 000 | 4,30 | 40 000 | 4,00 |
| Гранаты, 1 кг | 35 000 | 3,50 | 29 900 | 2,99 |
| Ківі, 1 кг | 24 500 | 2,45 | 32 000 | 3,20 |
| Буракі, 1 кг | 5 000 | 0,50 | 3 500 | 0,35 |
| Памідоры, 1 кг | 15 000 | 1,50 | 17 000 | 1,70 |
| Агуркі, 1 кг | 25 000 | 2,50 | 27 500 | 2,75 |
| Перац, 1 кг | 13 500 | 1,35 | 16 000 | 1,60 |
| Кавун, 1 кг | 3 500 | 0,35 | 5 500 | 0,55 |
| Дыня, 1 кг | 14 000 | 1,40 | 14 000 | 1,40 |
| Кабачок, 1 кг | 12 000 | 1,20 | 12 000 | 1,20 |
| Вінаград, 1 кг | 26 000 | 2,60 | 27 000 | 2,70 |
| Бананы, 1 кг | 21 500 | 2,15 | 19 900 | 1,99 |
| Яблыкі, 1 кг | 7 500 | 0,75 | 11 500 | 1,15 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 25 000 | 2,50 | 28 500 | 2,85 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 3 000 | 0,30 | 3 000 | 0,30 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

НАВІНЫ

## Мужчына перакуліўся на мапедзе

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарылася гэта каля паловы сёмай раніцы 25 кастрычніка. Мужчына ехаў на мапедзе "Мінск", не справіўся з кіраваннем і перакуліўся на праезнай часткі.

У выніку кіроўцу шпіталізавалі з дыягназам "закрыты пералом пазванка". Мужчыну – 55 год.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## Міліцыя шукае відавочцаў здарэння

**МАЛАДЗЕЧНА**

29 верасня 2016 года ў 13:00 на сельскагаспадарчым полі, што размешчанае на першым кіламетры аўтадарогі Мінск-Маладзечна-Нарач, кіроўца МАЗа-4570 43-337 наехаў на непаўнагадовую дзяўчынку, якая ад атрыманых траўмаў памерла на месцы здарэння.

Просьба сведак і відавочцаў дадзенага здарэння звярнуцца ў ДАІ Маладзечанскага РАУС па вуліцы Т. Дудко, 1-18 або па тэлефонах **(80176) 74-53-40, 74-53-43** ці па нумары **102.**

## Адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху

**МАЛАДЗЕЧНА**

"Пастой, пешаход, не спяшайся пад колы!" – пад такім дэвізам 28 кастрычніка Дзяржаўтаінспекцыя правядзе адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху.

Мэта – прафілактыка дарожна-транспартных здарэнняў па віне і з удзелам пешаходаў, у тым ліку на пешаходных пераходах.

У рамках мерапрыемства міліцыя забяспечыць дзейсны кантроль над выкананнем правілаў дарожнага руху, правядзе ў працоўных калектывах і школах растлумачальную работу па прафілактыцы дарожна-транспартнага траўматызму.

На тэрыторыі раёна з пачатку года зарэгістраваныя 42 дарожна-транспартныя здарэнні. У іх два чалавекі загінулі, 44 атрымалі цялесныя пашкоджанні.

Чатыры ДТЗ адбыліся па віне нецвярозых кіроўцаў. На пешаходаў здзейснена дзевяць наездаў. У выніку аварый адзін пешаход загінуў і восем атрымалі траўмы.

## "Бяспечныя канікулы"

**МАЛАДЗЕЧНА**

Для прафілактыкі ДТЗ і дзіцячага траўматызму напярэдадні і падчас восеньскіх школьных канікулаў дзяржаўтаінспекцыя Маладзечна ад 24 кастрычніка да 7 лістапада праводзіць абласную прафілактычную акцыю "Бяспечныя канікулы".

У рамках акцыі міліцыянеры выступяць ў працоўных калектывах і школах. Раскажуць пра дзіцячы дарожна-транспартны траўматызм на тэрыторыі Маладзечанскага раёна і Мінскай вобласці.

Супрацоўнікі ДАІ звернуць увагу на выяўленне і спыненне непаўналетнімі парушэнняў правілаў дарожнага руху з прыцягненнем бацькоў да адміністрацыйнай адказнасці, на бяспечную перавозку дзяцей у аўтамабілях.

Ад пачатку года ў Маладзечанскім раёне былі два дарожна-транспартныя здарэнні з удзелам непаўналетніх. Двое атрымалі розныя цялесныя пашкоджанні.

61 ДТЗ з удзелам непаўналетніх адбылося ў Мінскай вобласці. 60 дзяцей атрымалі траўмы, а пяць загінула.

Расследаванні паказалі, што ў некаторых выпадках дзеці траплялі ў аварыю з-за слабых ведаў Правілаў дарожнага руху, з-за сваёй недысцыплінаванасці, няўважлівасці і неасцярожнасці.

Найбольш распаўсюджаныя памылкі пешаходаў – гэта пераход дарогі не па пешаходным пераходзе, гульні і свавольствы на праезнай часткі, знаходжанне дзяцей без дарослых.

Выхадныя дні і канікулы – самыя небяспечныя ў плане дарожных здарэнняў.

Памятаць аб Правілах дарожнага руху і быць уважлівымі павінны не толькі дзеці, але і іх бацькі. Бо часам менавіта дарослыя ствараюць небяспечныя сітуацыі для сябе і сваіх дзяцей.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага РАУС, капітан міліцыі.**







Гаспадыня не змырылася з тым, што зладзеі паквапіліся на яе тэлевізар. Фота glavny.tv

# Даганяла зладзеяў, якія скралі тэлевізар

**АШМЯНЫ**

**Жыхарка Ашмянаў 1960 года нараджэння ўвечары не зачыніла ўваходныя дзверы на замок. З-за гэтага яна пазбавілася тэлевізара. Праўда, на кароткі час.**

Гаспадыня была ў далёкім пакоі сваёй кватэры разам з дачкой. Дачка пачула ў пярэднім пакоі незразумелы шум. Пайшла туды і ўбачыла двух невядомых людзей. У аднаго з іх у руках быў тэлевізар.

Начальнік Ашмянскага РАУС падпалкоўнік міліцыі Дзмітры Уляшка расказаў, што жанчына не разгубілася і пачала даганяць зладзеяў.

Каб уцячы, мужчына выкінуў тэлевізар. Тым не менш, жанчына запомніла яго прыкметы, пра што паведаміла ў міліцыю.

Падазроных затрымалі. Гэта мясцовыя жыхары 1997-1998 гадоў нараджэння, якія нідзе не працуюць.

Да злачынства маладыя людзі некалькі дзён ўжывалі спіртныя напоі. Тэлевізар скралі ў стане моцнага алкагольнага ап'янення.

**Паводле УУС Гроднааблвыканкама.**

## У пажары загінулі пяцігадовы хлопчык і інспектар ДАІ

**МАЛАДЗЕЧНА**

Загінулы інспектар даводзіцца сынам гаспадыні, а хлопчык – унукам.

Паводле інфармацыі МНС, паведамленне аб пажары паступіла каля 23 гадзін у нядзелю, 23 кастрычніка.

Трагедыя адбылася ў садовым таварыстве "Паляны" каля вёскі Старынкі Маладзечанскага раёна.

Дом належыць 53-гадовай непрацуючай жанчыне.

Загінулы інспектар працаваў у ДАІ Маскоўскага РАУС у Мінску.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, вагончык гарэў адкрытым полымем. Дах абрынуўся ўнутр, а агонь пагражаў двум аўтамабілям.

Выратавальнікі знайшлі на падлозе ў вагончыку загінулых мужчыну і хлопчыка.

Агонь знішчыў лецішча і гаспадарчую пабудову, пашкодзіў машыну.

Прычыну пажару высвятляюць. Адна з версій – выкарыстанне для ацяплення печкі тыпу "буржуйка".

## Патушылі пажар – знайшлі труп гаспадара

**ВАЛОЖЫН**

Ноччу ў Валожынскі аддзел МНС патэлефанавалі і сказалі, што гарыць дом у вёсцы Мішаны.

Брыгада выехала на месца здарэння і патушыла пажар.

Калі пажарнікі разграбалі смецце на месцы, то знайшлі труп гаспадара дома.

У выніку праверкі ўстанавілі, што прычына здарэння – непатушаны акурак. Суседзі распавялі, што мужчына меў звычку пакідаць на табурэтцы каля ложка бляшанку з акуркамі.

Па словах суседа, паўгода таму ён ужо ратаваў гэтага мужчыну ад пажару. Сусед зайшоў якраз у той час, калі ад акурка пачынала гарэць коўдра, а гаспадар спаў. Тады мужчыну ўдалося выратаваць.

Аддзел па надзвычайных сітуацыях і раённы аддзел Валожынскага Следчага камітэта нагадваюць усім пра асцярожнае абыходжанне з агнём.

Пра гэта расказаў следчы Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта **Вячаслаў Лапцік.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Інспекцыя працы адмовіла ў спецрасследаванні смерці школьніцы ў Маладзечне. Родныя збіраюцца ў суд

**МАЛАДЗЕЧНА**

Маладзечанскі міжраённы аддзел Дэпартамента дзяржінспекцыі па працы адмовіў у правядзенні спецрасследавання па факце смерці 13-гадовай школьніцы ў Маладзечне падчас уборкі бульбы, паведамляе сайт news.tut.by.

Родным загінулай дзяўчынкі застаецца толькі звяртацца ў суд – і яны гатовыя гэта зрабіць. Незалежны прафсаюз РЭП ужо прапанаваў ім сваю дапамогу ў гэтым.

На днях сям'я Папчэні атрымала адказ з інспекцыі працы. Там прыйшлі да высновы, што няма падстаў для правядзення спецыяльнага расследавання няшчаснага выпадку на вытворчасці.

Сярод аргументаў адмовы тое, што ў Беларусі заключаць працоўны дагавор дапускаецца толькі з грамадзянамі ва ўзросце ад 14 гадоў – а загінулай было ўсяго 13. І "ні працоўных, ні грамадзянска-праваых адносін паміж ААТ "Усход-Агра" і школьніцай не ўстаноўлена".

Дэпартамент дзяржінспекцыі працы заяўляе, што "не надзелены правам ўстанаўлення факту наяўнасці працоўных адносін пры дадзеных абставінах". Аднак адзначае, што такі факт можа ўстанавіць суд Маладзечанскага раёна.

Як распавёў парталу TUT.BY праваабаронца **Леанід Судаленка**, такая іскавая заява ў суд ужо рыхтуецца. Будуць пачынаць з раённага суда – але гатовыя дайсці і да Вярхоўнага.

– Я гатовы дапамагчы бацьку падаць заяву ў суд і прадстаўляць яго інтарэсы, – заявіў праваабаронца Леанід Судаленка.

Родныя загінулай школьніцы пацвердзілі журналістам, што маюць намер давесці гэта пытанне да канца.

**Паводле NEWS.TUT.BY.**



Вучаніцы Чысцінскай СШ Дыяна Стрыжкова, злева, і Кацярына Мацкевіч у казцы igралі ролі Курыцы і Мышаняці. Фота Наталлі ТУР.

# Дырэктар Чысцінскай СШ з дзецьмі-артыстамі вітаецца за руку

МАЛАДЗЕЧНА

**Праект "Творчасць, якая аб'ядноўвае сэрцы", рэалізуюць педагогі сярэдняй школы №5 Маладзечна і Чысцінскай сярэдняй школы.**

Пра тое, чым канкрэтна займаюцца ў Чысцінскай СШ у межах гэтага праекта, расказала намесніца дырэктара па выхаваўчай рабоце **Алена Лемантовіч**.

– Асаблівую ўвагу ў праекце мы надаём дзецям з асаблівасцямі развіцця, – кажа Алена Віктараўна.

Першым буйным вынікам праекта стаў спектакль "Казка пра дурное мышаня", які паказалі вучні Чысцінскай сярэдняй школы.

У стварэнні спектакля дапамагалі і бацькі, і педагогі, і старшакласнікі.

У казцы было ажно 13 дзеючых асоб, іх igралі дзеці, якія вучацца з другога па 10 класы.

Сюжэт казкі, напэўна, вядомы многім і мамам, і дзеткам.

Непаслухмянае мышаня не хацела, каб мама-мыш перад сном пішчала ёй калыханкі. Тады мама пачала тэлефанаваць суседзям, каб тыя прыйшлі "пакалыхаць дзетку".

Ролю маленькага мышаняці выканала **Каця Мацкевіч**. Мама-мыш – **Лізавета Шупляк.**

Маленькае мышаня прыходзілі пакалыхаць і Качка, яе ролю выконвала **Валя Бакуновіч**, і Курыца – **Дыяна Стрыжкова**, і Парася – **Максім Стэсеў**, і Кабыла – **Паліна Юрынава**, і нават Жаба, роля якой дасталася **Паліне Пушкаровай**.

Апошняй у дом да мышы калыхаць мышаня прыходзіць Котка – **Паліна Чубанава**. Яна і забірае мышаня да сябе. Але хітрае мышаня абыгрывае котку ў "кошкі-мышкі" і збягае дадому.

Па дарозе ёй сустракаюцца Вожычыха з Вожыкам, ролі якіх выканалі **Дар'я Юрэвіч** і **Мікіта Хальчыцкі**, а таксама Пугач, ролю якога выканаў **Іван Струнгару**. Ад Пугача Мышаня хавалася пад лопухам, ролю якога выканаў **Радзівон Мушавец**.

– Радзівон проста як памочнік прыходзіў на рэпетыцыі, – расказвае Алена Лемантовіч, – а ў нас тут узнікла пытанне, як зрабіць так, каб Мышаня магло схавацца пад расліну. І Радзівон сам прапанаваў быць Лопухам. Роля адказная, не смейцеся, трэба было адказна выходзіць у патрэбны час, каб Мышаня магло своечасова схавацца.

Несправядліва б было не адзначыць **Алену Галюк**, якая выконвала ролю расказчыцы. Казка, як гэта і павінна быць, закончылася добра. І не толькі таму, што так павінна быць па сюжэце, а і таму, што ў зале гледачы казку прымалі вельмі добра.

І калі Алена Лемантовіч прапанавала гледачам выказаць сваё ўражанні, першым гэта зрабіў вучань пачатковых класаў, які адзін на ўсю залу крыкнуў: "Дзякуй вам".

Падрыхтоўка да спектакля доўжылася цягам месяца.

Дырэктар школы **Аляксандр Кісель** прызнаецца, што сам адчуў, як важна было дзецям увесь час знаходзіцца ў творчым працэсе.

**– У мяне ёсць завядзёнка, з 11-класнікамі вітацца за руку, дык вось для дзяцей, якія былі ўдзельнікамі спектакля, я зрабіў выключэнне і вітаўся за руку і з шасці-, і з васьмікласнікамі. І бачыў, які гэта аўтарытэт у вачах іх аднакласнікаў.**

Яшчэ дзеці пазнаёміліся адзін з адным, што асабліва важна для дзетак з асаблівасцямі развіцця. Разам ішлі са школы, разам абедалі ў сталоўцы.

Мама Вані Струнгару, таго, што выконваў ролю Пугача, **Лілія Струнгару**, прызналася, што спачатку яна баялася адпускаць сына на рэпетыцыі:

– Але потым я стала заўважаць, што з Ванем вітаюцца дзеці, пытаюцца, як у яго справы. Хаця да гэтага праекта Ваня быў дастаткова замкнёным дзіцем. А цяпер у яго ўся школа – сябры.

**Тое, што праект прадоўжыцца, Алена Лемантовіч ведае дакладна, а вось чым будзе здзіўляць сваіх вучняў Чысцінская СШ далей, пакуль сакрэт.**

Толькі як бы між іншым дырэктар і яго намесніца сказалі, што блізяцца навагоднія святы, а значыць, і час цудаў для маленькіх артыстаў і ўдзячных гледачоў.

Наталля ТУР.



Вучаніца 6 "Б" маладзечанскай гімназіі-каледжа Аліна Кохан.



Вучаніца 9 "А" класа школы №12 Маладзечна Паліна Клімовіч.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

## Конкурс "Дзясятачка" падводзіць вынікі

**28 кастрычніка, у дзень выхаду газеты ў друк, адбываецца вызначэнне апошніх пераможцаў.**

Спачатку мы абяром пераможцу шостага тура. Затым падлічым, які настаўнік падпісаў найбольш дасланых на конкурс бланкаў. Падлічым, які клас атрымаў найбольш галасоў.

І напрыканцы чакае самы ўрачысты момант – розыгрыш галоўнага прыза. Шчаслівчык атрымае ў падарунак планшэт.

Удзельнікі могуць прысутнічаць пры падсумоўванні конкурсу "Дзясятачка". Урачыстасць пачнецца а 15 гадзіне 28 кастрычніка ў рэдакцыі "РГ".

З кожным турам колькасць удзельнікаў конкурсу "Дзясятачка" ўсё павялічвалася. Ён так прыйшоўся даспадобы школьнікам, бацькам і настаўнікам, што рэдакцыя ўжо думае, ці не паўтарыць яго. Сачыце за папяровай і электроннай версіяй "Рэгіянальнай газеты", каб не прапусціць важныя навіны.

На гэтым тыдні мы ўзнагароджвалі пераможцаў чацвертага і пятага тураў. Дзевяцікласніцы **Паліне Клімовіч** пашчасціла стаць лідарам чацвертага тура з бланкам з дзясяткай па гісторыі. Паліна вучыцца ў маладзечанскай школе №12.

У пятым туры шчаслівым стаў бланк **Аліны Кохан**. Дзяўчынка вучыцца ў 6 "Б" маладзечанскай гімназіі-каледжа. Выцягнулі яе бланк з дзясяткай па беларускай гісторыі.

Усе дасланыя за перыяд конкурсу бланкі ўдзельнічаюць у розыгрышы галоўнага прыза – планшэта.

У конкурсе ўдзельнічалі вучні многіх школ і гімназій рэгіёна: з Маладзечна і Вілейкі, Ілы, Нарочы, Вязыні і Крывічоў Вілейскага раёна, Багданава Валожынскага раёна. Самымі актыўнымі сталі вучні маладзечанскіх школ №№11, 12, 14 і гімназіі-каледжа мастацтваў, а таксама вілейскай гімназіі "Логас".

Заставайцеся нашымі чытачамі, а мы будзем працягваць радаваць вас цікавымі конкурсамі.

Аддзел інфармацыі.



# Ільянец стаў сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў

ВІЛЕЙКА

**Жыхару Ільі, пісьменніку, краязнаўцу Уладзіміру Кажамяку ў ільянскай школе ўручылі білет сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Выканаць гэту ганаровую місію прыехалі госці з Мінска – паэты Усевалад Сцебурака і Аксана Спрынчан.**

Мы ўсе шчыра парадаваліся разам з Уладзімірам Кажамякам. Дарэчы, убачылі свет ужо тры яго кнігі: "Ходзіць вёскамі сіняе лета" (2009 г.), "Не пакідаюць нас белыя лебедзі" (2011 г.), "Цяпер і мне ўспомніць можна" (2016 г.).

Аксана і Усевалад наведалі школьныя народныя музеі "Вілейшчына літаратурная" і "Ільянскія далягляды". Іх здзівіла багацце музейных матэрыялаў.

А ў школьнай зале зладзілі літаратурную гасцёўню з удзелам вучняў 5-11 класаў. Вучаніцы 9 класа **Кацярына Тонкавіч** і **Яўгенія Краўчонак** пазнаёмілі дзяцей з кароткімі біяграфічнымі звесткамі пра нашых гасцей. **Артур Забаронак** і **Кірыл Яцэвіч** прачыталі вершы Усевалада Сцебуракі.

Гледачы даведаліся, што Усевалад – наш зямляк. Ён нарадзіўся ў сям'і дактароў **Мікалая** і **Інэсы Сцебуракаў**. Скончыў вілейскую гімназію, гістарычны факультэт БДПУ імя Максіма Танка. Ён аўтар уласных кніг і лаўрэат літаратурных прэмій. Цяпер – памочнік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Аксана Спрынчан працуе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Яна нарадзілася ў Лунінцы. Яе дзядуля і бацька таксама літаратары.

Аксана і Усевалад слухалі пра сябе з лёгкай усмешкай на твары.

Усевалад Сцебурака прачытаў вучням свае вершы. І ў размове з гледачамі, і ў радках вершаў адчувалася любоў аўтара да дамашніх жывёл. Гэтыя творы ён змесціць у новым зборніку, які рыхтуе да друку.

Паэт распавёў пра новы праект "Пяцісотгоднасць", што ладзіцца сёлета культурніцкай кампаніяй "Будзьма беларусамі!" і Саюзам беларускіх пісьменнікаў.

Затым мікрафон перайшоў у рукі Аксаны Спрынчан. Яна таксама пазнаёміла аўдыторыю са сваімі новымі творамі.

Напрыканцы сустрэчы Усевалад падарыў школьнаму музею апошнія выданні часопіса "Дзеяслоў", зборнікі твораў маладых пісьменнікаў, дыск з запісамі вершаў беларускіх пісьменнікаў у выкананні саміх аўтараў. А вучні, якія выступалі перад гасцямі, атрымалі беларускамоўныя паштоўкі.

Мерапрыемства закончылася традыцыйна: зрабілі агульны здымак на памяць.

На развітанне чуліся словы ўдзячнасці за цёплую і шчырую сустрэчу.

На школьным двары госці прыпыніліся ля мемарыяльнай дошкі **Змітраку Бядулю**. Аксана Спрынчан усклала да яе восеньскія кветкі.

Але на гэтым госці яшчэ не развіталіся з Ільёй. Іх чакалі навучэнцы і выкладчыкі Ільянскага аграрнага каледжа.

**Валянціна ЯРАШОНАК, кіраўнік музея "Вілейшчына літаратурная" Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця.**



Фота забяспечанае Ільянскай школай.

Аксана Спрынчан, Усевалад Сцебурака, Валянціна Ярашонак ля мемарыяльнай дошкі.


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Таццяна Камкова, злева, дырэктар гімназіі №10 у Маладзечне, з гасцямі Сюй Кэці, Ларысай Трыгубавай, Шы Лін, Цань Манюй і Таццянай Булко, намесніцай дырэктара, справа, на ўроку ў гімназіі.

# Тут добрыя людзі і разумныя дзеці: гімназію №10 наведалі кітайцы

МАЛАДЗЕЧНА

**"Ніхао" – так віталіся з вучнямі і настаўнікамі госці ў маладзечанскай гімназіі №10. Тут сустракалі гасцей з кітайскага горада Нанкін.**

**Сюй Кэці**, прафесар, дырэктар інстытута Канфуцыя з кітайскага боку, **Шы Лін**, якая прымае абавязкі дырэктара, і **Ларыса Трыгубава**, дырэктар інстытута з беларускага боку і перакладчыца, прыехалі ў Маладзечна з важнай місіяй.

Яны хацелі даведацца, як справы ў маладой настаўніцы **Цянь Вэньюй.** У дзясятай гімназіі яна выкладае факультатыўныя заняткі па кітайскай мове.

На пытанне, ці падабаецца ёй жыць і працаваць у Маладзечне, Вэньюй адказала:

– Вельмі падабаецца! Тут людзі добрыя. Тут дзеці разумныя.

Госці папрысутнічалі на занятках Цянь Вэньюй. Вучні паказалі, як яны ўмеюць пісаць кітайскія іерогліфы, расказалі, якія ўжо ведаюць кітайскія словы.

З прадстаўнікамі інстытута Канфуцыя прыехала маладая выкладчыца **Цай Манюй**. Дзяўчына застанецца ў Маладзечне. Факультатыў па кітайскай мове яна будзе выкладаць для вучняў гімназіі №6 у Маладзечне.

### Будні кітайскіх школьнікаў

Госці наведалі ўрокі мастацтва і рускай мовы ў гімназіі. Яны расказалі вучням пра родны горад Нанкін – паўночную сталіцу Кітая. А Пекін, як аказалася, паўднёвая сталіца.

**Госці ўпэўніліся, што для вучняў Кітай – не зусім чужая краіна. Дзеці ведалі і пра філасофа Канфуцыя, і пра тое, што ў Кітаі шмат насельніцтва.**

Цікава было даведацца ад Сюй Кэці, чым кітайская гімназія адрозніваецца ад беларускай.

Па словах мужчыны, кітайскія школьнікі не знаходзяцца ўсе разам. Вучні пачатковай школы, а гэта 1-6 клас, вучацца ў асобным будынку.

Пасля 6 класа пачынаецца сярэдняя школа, дзе навучаюцца тры гады. Пасля – старэйшая школа, дзе таксама вучацца 3 гады. Атрымліваецца, што навучанне ў Кітаі доўжыцца 12 год. Дзеці заканчваюць школу ў 18-19.

Вучняў у кітайскіх класах больш, чым у нас. Калі школа спецыялізаваная, у адным класе – 25-36 школьнікаў. У звычайных школах – 50-55 чалавек у класе. Да таго ж у Кітаі будуецца шмат новых школ.

### Уразілі няўсмешлівыя людзі і прыгожыя дзяўчаты

Прафесар прызнаецца, што да свайго прыезду ў Беларусь ён мала ведаў пра гэту краіну.

Цяпер жа шмат пра гісторыю і культуру нашай краіны ведае не толькі ён, але і яго кітайскія сябры. А хутка будуць ведаць яшчэ больш. Бо, па словах Сюя Кэці, у другім Пекінскім інстытуце замежных моў адкрылі спецыяльнасць "беларуская мова і літаратура".

Яшчэ прафесар прызнаўся, што ў Беларусі яго ўразілі ветлівыя людзі і прыгожыя дзяўчаты.

Калега прафесара Шы Лін расказала, што ёй спадабаліся вялікія лясы. Уразіў чысты і ўтульны Мінск.

А яшчэ жанчына заўважыла, наколькі ў нас няўсмешлівыя людзі:

– Я заўсёды ўсміхаюся. Нават незнаёмым. А тут, у Беларусі, мне чамусьці не ўсміхаюцца ў адказ.

26 кастрычніка інстытут Канфуцыя арганізуе паездку беларускай дэлегацыі ў Кітай. Сярод запрошаных – дырэктар маладзечанскай гімназіі №10 **Таццяна Камкова**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-80, 1993 г.в, газбензін, не фарбаваны. Т. (8-044) 7204408.

• Аўтапрычэп "Зубраня", 1994 г.в., у выдатным стане. Т. (8-044) 7182499.

• ВАЗ-21013 па запчастках. Т. (8-033) 6962074.*

• ВАЗ-2107, 1992 г.в, 1,5 бензін. Т. (8-029) 2639924.*

• ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.

• Івеко-Турба-Дэйлі 49-10, 1994 г.в, 2,5ТД, добры стан, 10000 руб., торг. Рэно-19, 1990 г.в, 1,7 бензін, добры стан, 1900 руб. Т. Вэлком (8-029) 3156897.

• Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.

• Пежо-407, 2007 г.в. Т. (8-029) 5745917.

• Ровер-416, 1997 г.в.Т. (8-0176) 548468, Вэлком (8-029) 6026589.

• Рэно-Лагуна 3, 2010 г.в. 1,5 сді, усе опцыі, без прабегу па РБ, колер белы. Маладзечна. Т. (8-029) 6870898.

• Чэры-Тыга, 2010 г.в, 1,8 ГБ, 10000 руб. Т. МТС 5676832.

• Аўташыны любых памераў ад 13 да 22,5 і сельскагаспадарчыя колы. Шынамантаж на месцы. Т. (8-029) 6032178, (8-029) 7539495.*

• Гума зімовая Nokian 195/65 R15 – 4 шт. з жалезнымі дыскамі. Вагончык для будматэрыялаў. Т. Вэлком (8-044) 5749372.*

• Гума зімовая 195x65 R15 – 4 шт., б/к, 5000 км, 195x75 R16 C – 4 шт., б/к. Дыскі літыя БМВ-3 R 16. Т. (8-029) 6666855.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*



• Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэякапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына,12 агул. плошчай 42 кв. м, 5/5, 40 000. Т. Вэлком (8-029) 3551007.

• 2-пакаёвая кватэра ў агр. Любань з еўрарамонтам. Т. (8-029) 8460439.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён Незалежнасці. Т. (8-029) 5081223.*



• 2-пакаёвая кватэра ў цагляным доме 2006 г.п, 5/5, 59,9 кв.м. Т. МТС (8-029) 7663243.

• 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Маладзечна, 2 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-029) 3301317.

• 2-пакаёвую кватэру, 5/5. Т. Вэлком (8-029) 6801663.*

• 3-пакаёвая кватэра 108,6 кв.м у Вілейцы. Т. 6795426, (8-029) 2524842.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Будаўнікоў, 6; цагляны, 4/9, 67,7-38,7-8,2. Т. Вэлком (8-044) 5167223, МТС (8-033) 3821485.

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*

• 4-пакаёвая кватэра, 76 кв.м, у Маладзечне па вул. Крынічнай. Т. (8-029) 3840109.*

• Гараж у ГК №14 г. Маладзечна, вул. Новы Свет. Т. Вэлком (8-044) 5167223, МТС (8-033) 3821485.

• Гараж у ГК-12 у Маладзечне. Т. (8-029) 8583149.

• Гараж у Маладзечне ў ГК №32 "Фестывальны". Вароты 2,7x2,7 м. Гараж 6x5,2 м. Магчымы абмен на аўтамабіль. Т. (8-029) 6374541.*

• Дача ў Забалоцці. Т. (8-029) 2608541.*

• Дача, лазня ў в. Прынта Вілейскага раёна, лес, грыбы, ягады, рыбалка (р. Нарачанка). Т. МТС (8-029) 2521686.*

• Дом драўляны ў Мядзеле з уцепленай мансардай. Усе цэнтральныя камунікацыі. Гаспадарчыя пабудовы. Участак 8 сотак. Т. (8-029) 1900167.*

• Дом недабудаваны ў Маладзечне, 130 кв.м, участак 0,15. Часовая пабудова. Магчымы абмен на кватэру. Т. (8-029) 5605781.*

• Дом новы ў в.Снежкава. Т. МТС (8-029) 2516187.*

• Дом у в. Цынцавічы. Т. (8-033) 6056455.

• Дом у Маладзечне; выгоды, газ, гараж. Т. (8-029) 2608541.*

• Пакой у 2-пакаёвай кватэры. Т. Вэлком (8-029) 6801663.*

### ЗДАМ

• **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***

• У арэнду гандлёвы павільён у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8617331.

• У арэнду офісныя памяшканні (17,1+30 кв.м; 26,5 кв.м; 16,2 кв.м; 8,1 кв.м) на асобным паверсе (з сан. вузлом, халадзільнікам), можна ўвесь паверх для адной арганізацыі. Асобныя памяшканні ў комплексе: 15,7 кв.м +55,9 кв. +7,6 кв.м (2-і паверх, з сан. вузлом, асобны ўваход, можна пад офісы/вытворчасць/склад. Размяшчэнне каля ГЦ "Спадарожнік" у Маладзечне. ІП Судніковіч В.В. УНП 691888455. Т. (8-044) 7641131, (8-029) 6650410, (8-029) 1180002 (пн.-пт. 8:00-17:00).

• У арэнду памяшканне 32 кв.м у цэнтры альбо прадам. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977. Т. (8-029) 5551515.*

• У арэнду памяшканне ў Вілейцы, 80 кв.м, 2 паверх, асобны ўваход. Магчыма здаваць па частках. Т. (8-029) 7613299, (8-029) 3506947.*

### НАЙМУ

• 1-пакаёвую кватэру на доўгі тэрмін. Т. (8-033) 6692292.



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

• Музычнае суправаджэнне юбілеяў, вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

• **ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА**

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*

• Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду, нафту, газ. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. (8-029) 1287878.*

• Выканаю ўкладку пліткі, выраўную сцены. ІП Ракецкі Я.А. УНП 691889714. Т. (8-033) 3357407.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Дах, у тым ліку рамонт, дапамагу ў выбары і дастаўлю матэрыял. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Правы, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Пераможца "Кулінарнага сакваяжыка": "Кухня не павінна станавіцца для жанчыны цэнтрам жыцця"

ВІЛЕЙКА

**Кухня – павінна быць маленькім светам для жанчыны, а не ахопліваць цэлы сусвет. У гэтым упэўненая пераможца конкурсу "Кулінарны сакваяжык" Алёна Емяльяненка з Вілейкі.**

– Насуперак распаўсюджанаму меркаванню, што нават маленькая кухня – гэта вялікі сусвет жанчыны, для мяне гэта не так, – адзначае пераможца. – У нашай кватэры кухня сапраўды вельмі маленькая па памеры, і я не раблю гэты пакой цэнтрам свайго жыцця. Накарміць сям'ю – абавязак кожнай жанчыны, аднак я не з тых, хто ўвесь вольны час праводзіць на кухні. Павінны заставацца час і на сябе, прагляд добрых тэлеперадач, кніг, дзіця, новыя знаёмствы. Час вельмі хутка ляціць, таму хочацца захаваць у памяці яркія эмоцыі, а не спіс страў, якія ты навучылася рабіць.

Каб хутчэй справіцца з прыгатаваннем ежы, жанчына замарожвае, кансервуе садавіну і гародніну летам. Пры гэтым кансервуецца амаль усё тое, што вырасла на агародзе ў яе мамы.

– Боршч – адна з любімых страў у нашай сям'і. Аднак, каб было сапраўды смачна, трэба даўгавата праваждацца, з малым дзіцем гэта не заўсёды ўдаецца, – заўважае Алёна. – Таму летам марыную буракі, пры гэтым рэжу іх і кубікамі, і доўгімі стужкамі. Напачатку вару бульбу, моркву, цыбулю, каваллачак мяса альбо костку, каб быў наварысты, а ў канцы дадаю марынаваныя бурачкі. Смак у стравы ўжо іншы, і вазіцца доўга не трэба.

### Песціць мужа трэба, але не распешчваць

А вось часу на прыгатаванне печыва жанчына не шкадуе. Займаецца выпечкай раз на тыдзень. Пры гэтым выпякае ў залежнасці ад настрою: узнёслы і сонечны – стравы складаныя, спрабуе нешта новае, калі сумны, то больш простыя.

– У мяне няма вызначанага дня, калі займаюся выпечкай, і гэта вельмі добра. Для мужа гэта сапраўднае свята, вельмі цэніць мае старанні, не шкадуе добрых слоў перад сябрамі, ледзьве не сам рэцэпты раздае. Канешне, просіць, каб пякла часцей, аднак лічу, што гэта неапраўдана: да добрага хутка прывыкаеш, а таму перастаеш цаніць. Лепш рэдка, затое метка, – усміхаецца Алёна.

Ёсць стравы, да якіх маладой жонцы і маці не даюць дакрануцца, гэта мяса па-французску і паляндвіца. Таму імі займаецца муж, **Ігар**.

### Пераязджала да мужа, узяла швейную машынку і ката

Алёна па адукацыі краўшчыха-закройшчыца, таму многае адзенне для сям'і шые сама.

– Як пераязджала да мужа, то спачатку перавезла швейную машынку і ката, – узгадвае жанчына. – Ігар доўгі час здзіўляўся: усе жанчыны з сабой торбы адзення, абутку, касметыкі збіраюць, а мая прыцягнула швейную машынку і ката.

Як прызнаецца пераможца, звычайна жаданне нешта пашыць прыходзіць менавіта ноччу, калі становіцца ціха ў кватэры. Так адразу пасля замужжа жанчына прыступіла да таго, што перагледзела гардэроб мужа: многае з таго, што было ў шафе, ёй не падабалася, многае не падабалася мужу, таму не насіў.

Так з камізэлькі і сарочкі з'явілася модная кофта, свае працёртыя джынсы ператварыла ў модныя штонікі для сына. Ішлі з мужам на вяселле да сябра, пашыла сабе белую сукенку з чырвонымі кветачкамі, мужу і сыну – чырвоныя бабачкі.

– Аднак бывае так захопліваешся, што не заўважаеш, як праходзіць ноч, – расказвае жанчына. – Днём увесь час з сынам. Адсыпаюся, як муж прыходзіць з работы.

### Не хапае часу пабыць разам

– Многія гавораць, што ў шлюбе адзін да аднаго хутка прывыкаеш і бытавыя праблемы з'ядаюць адносіны, ад гэтага непаразуменні, канфлікты, – дзеліцца назіраннямі Алёна. – Часам задаюся пытаннем, што ў нас нейкая няправільная сям'я. Такое адчуванне, што жывём разам, аднак увесь час мала бачым адно аднаго, хочацца, каб любімы быў побач ледзьве не штохвілінна. Напэўна, у гэтым і шчасце – знайсці чалавека, які дапаўняе цябе, хавае твае недахопы, затое робіць перавагі больш заўважнымі.



**Алёна Емяльяненка разам з сынам Арцёмам прымаюць віншаванні. Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.**

### Бліц-апытанне

Каб бліжэй пазнаёміцца з пераможцай, мы задалі ёй некалькі пытанняў пра рэчы, якія ёй падабаюцца.

1. Колер.
Салатавы.
2. Фільм.
"Д'ябал носіць Прада".
3. Кніга.
Лууле Віілма "Усё пачынаецца з любові".
4. Пара года.
Лета.
5. Роля, якую б хацела выканаць у фільме?
Папялушка.
6. Песні, якія спяваеш у ваннай?
Не пяю ў гэтым пакоі, бо вельмі добра чуваць суседзям. А вось з іх музычнай творчасцю вельмі добра знаёмая.
7. Без чаго ваша жыццё не мае сэнсу?
Без мужа і сына.

Жанчына марыць пра тое, як разам з мужам яны будуць падарожнічаць па свеце. Пакуль жа ўдалося ўбачыць розныя куткі Беларусі, напрыклад, былі ў Парыжы, з малым дзіцем пакуль страшна выязджаць за мяжу.

– Уяўляю, як у адзін дзень муж прыйдзе дадому з загадкавым выглядам і скажа: "Ты яшчэ тут? Я думаў, ужо пабегла збіраць рэчы! Мы ляцім у Парыж", – марыць Алёна.

Галіна СУДНІКОВІЧ.

## Ракавае танга, пастраенне па памеры нагі, казацкія песні – чым запомнілася ўзнагароджанне пераможцы "Кулінарнага сакваяжыка"

МАЛАДЗЕЧНА

**У суботу, 22 кастрычніка, "Рэгіянальная газета" сумесна з банкетнай залай "Глушэц" на вуліцы Ларына ўзнагародзілі пераможцу конкурсу "Кулінарны сакваяжык" Алёну Емяльяненку з Вілейкі.**

На шашлыках, якія прыгатавала банкетная зала "Глушэц", жанчына была з самымі блізкімі: мужам **Ігарам**, сынам **Арцёмам**, сястрой **Кацярынай**, таксама радасць раздзялілі і сябры.

Акрамя смачнай стравы гасцей чакала шмат прыемных сюрпрызаў.

Каб хутчэй праходзіла знаёмства паміж удзельнікамі, вядучыя прапанавалі падабраць да літар алфавіту розныя прыметнікі. Калі вядучыя называлі літары алфавіту, павінны былі ўставаць людзі, імёны якіх пачыналіся менавіта з гэтых літар. Удзельнікі прадстаўляліся, а да іх дадаваўся загадзя падрыхтаваны прыметнік. Так госці пазнаёміліся з аніякай Алёнай, благім Барысам, ветлівым Віталём, едкай Екацярынай і іншымі ўдзельнікамі.

Перад пераможцамі выступіў гурт "Гутатэлі". Гаспадар банкетнай залы "Глушэц" спявак **Віталь Качаткоў** выканаў песні на словы **Аксаны Ярашонак**. Дырэктар вілейскага кінатэатра "Мір" **Андрэй Дударчык** уражваў казацкімі песнямі.

Нікога не пакінулі раўнадушнымі ўсходнія танцы ад кіраўніка студыі танца "Fashion" **Вольгі Злотнікавай** і яе вучаніцы **Наталлі**.

А каб удзельнікі мерапрыемства адчулі сябе творчымі асобамі, некаторым з іх прапанавалі стаць скульптарамі, іншыя ж былі матэрыялам у руках творцаў.

Андрэй Дударчык ніяк не мог вызначыцца са сваёй скульптурай: ракавае танга альбо ракавое, прыйшлося зрабіць дзве.

А вось **Ігару Марозу** выпала цяжэйшае заданне – паказаць скульптуру пад назвай "Шлюбная ноч". Спачатку мужчына саромеўся выявіць усе свае фантазіі. Аднак вырашыў паказаць дзею сімвалічна, і хутка ў руках яго скульптур заблішчэлі скрыжаваныя высокападняты відэлец і нож.

– А што? Смела, – падзяліўся вынікам сваёй справы мужчына. – Ну, не на лаву ж іх класці. У кожнага ж шлюбная ноч па-рознаму праходзіць.

Крыху пад'еўшы і набраўшыся сіл, удзельнікі падзяліліся на чатыры каманды, па пары года, у якую нарадзіліся. Самай маленькай была зімовая каманда – чатыры ўдзельнікі.

Конкурс называўся "Стройся". А строіцца ўдзельнікі павінны былі па розных параметрах: па памеры абутку, даўжыні валасоў, яркасці адзення і іншых. Каманды стараліся як мага хутчэй выканаць заданне, таму хуткая валтузня дапамагала бліжэй пазнаёміцца адзін з адным і паднімала настрой.

Аддзел інфармацыі.

# Урэчча – вёска, што туліцца да Нарачанкі

## Урэчча канца 19 – пачатку 20 стагоддзяў

ВІЛЕЙКА

**Назва вёскі паходзіць ад урочышча, якое знаходзілася каля ракі Нарачанкі. Ад 1473 года Урэчча вядома як угоддзі Юрыя Андрэевіча Саковіча.**



Фота забяспечанае Барысам ЦІТОВІЧАМ.

Жыхары вёскі Урэчча Яфім і Уладзімір Гулецкія (другі і трэці ў другім радзе) падчас службы тэлеграфістамі ў 1916 годзе.

У XIX стагоддзі многа жыццяў забіралі хваробы. Смерць касіла дзяцей. Ва Урэччы ў 1893 годзе шмат іх памерла ад воспы.

Паводле Усерасійскага перапісу насельніцтва 1897 года, тут было 26 участкаў зямлі (341,71 дзесяціны), 69 двароў, жылі 383 чалавекі (195 мужчын і 188 жанчын), трое мужчын было на заработках. Наяўных работнікаў было 308 чалавек. Пашы і выганаў было мала. Каля вёскі лес ды балота, а таму жывёлы тут трымалі мала – 66 коней, 150 галоў буйной рагатай жывёлы, 271 дробную жывёлу.

**Вядома, што вёска Урэчча неаднаразова перабудоўвалася. Май 1911 года выдаўся сухім. Ноччу з 11 на 12 мая амаль датла згарэлі 56 хат гэтай вёскі з гумнамі і хлявамі, ацалелі толькі 12 сяліб. Сяляне атрымалі страхавыя грошы і да зімы пабудавалі новыя хаты пры новай планіроўцы на тым жа самым месцы. У выніку адбудовы вёска ў даўжыню павялічылася, хоць колькасць сяліб засталася такой, як і раней.**

Ва Урэччы, як і ў іншых вёсках, у сялян не хапала зямлі. У пачатку 20 стагоддзя Мірон Ахрэм адгукнуўся на заклік царскага прэм'ер-міністра Сталыпіна паехаць на неабжытыя землі ў Сібір. Ён пакінуў старэйшаму сыну Паўлу свой надзел зямлі і з сям'ёй (жонкай, малодшым сынам Пётрам і пяццю дочкамі) адправіўся туды за лепшай доляй. Там і застаўся. Толькі яго дзве дачкі ў пачатку 1950-х вярнуліся з Сібіры ў Беларусь.

У верасні 1915 года каля вёсак Урэчча і Бараўцы праходзіла лінія фронту. У выніку абстрэлу нямецкіх акопаў рускімі войскамі вёска згарэла, але не ўся. Ацалеў прыблізна толькі кожны дзясяты двор. Засталася і Урэцкая царква святога Мікалая на могілках. Яна была пабудаваная з абчасаных бярвенняў у 1796 годзе. Вытрымала розныя ліхалецці і захавалася да гэтага часу. Прастольнае свята ў гэтай царкве на Міколу 22 (9) мая.

У самой вёскі быў незайздросны лёс, хоць яна і захавалася як паселішча. У 1921 годзе тут не было ніякіх ваенных дзеянняў, але ў маі згарэлі 16 хат. А праз 11 гадоў, увосень 1932 года, у вёсцы праведзены перадзел зямлі. Уся царкоўная зямля, а гэта 33 дзесяціны, аднятая польскім урадам ад Урэцкай царквы і аддадзеная пад хутары. Ворыўныя, сенакосныя і сялібныя землі, што належалі ўрэцкім сялянам, падзеленыя на ўчасткі-вотрубы. Такіх вотрубаў аказалася 18. І тыя, хто атрымаў вотруб, пачалі паступова перасяляцца на хутары.

На старым месцы ў самой вёсцы засталося 18 хат. Якраз столькі казённых участкаў зямлі было выдзелена ўрэцкім сялянам паводле сялянскай рэформы.

Такім чынам, атрымалася, што пасля апошняй вайны на Урэччы былі тры паселішчы, якія знаходзіліся ў розных месцах. На прасёлачнай дарозе з Бараўцаў на Кардон было Урэчча, дзе ў 1960 годзе налічваўся 131 жыхар. Ад гэтага паселішча за паўкіламетра, можа крыху болей, на поўнач на полі (недалёка ад бальшака) знаходзілася Урэчча-Старына, у якім на той час жылі 130 чалавек. Там і была пачатковая школа. Урэчча-Навіны – гэта паселішча (каля 10 хат) з пясчанай вуліцай з аднабаковай забудовай на левым беразе Нарачанкі (прыкладна за 1–1,5 км на поўнач ад Кардона). Тут жылі 55 чалавек, сярод іх былі прозвішчы Субач, Гулецкі (мянушкі Цімошка, Цыркун). Урэчча-Навіны ссялілі ў вёску ў канцы 1960 – пачатку 1970 гадоў. Цяпер Урэчча размешчаная ў двух месцах: у вёсцы і на полі, што называюць "Старынкі".

У 1939 годзе на Урэччы малады Уладзімір Гулецкі па мянушцы Цыркун на сваім вяселлі засек сякерай касіцкага дзецюка Сярожу Балыша. Нехта з гэтых дзецюкоў на самым вяселлі пачаў груба насміхацца з маладой, якая з Касічоў выходзіла замуж на Урэчча, што ў яе нос крывы. Той, хто здзекліва дражніўся, уцёк, а невінаваты быў забіты. Забойцу пакаралі на судзе, але адсядзеў зусім мала гадоў. Яму пашанцавала, што пачалася вайна. Праўда, потым яго пакараў Бог: ён надоўга захварэў. А на касіцкіх могілках стаіць помнік Сяргею Балышу, на якім было напісана, хто яго забіў.

**Сымон БАРЫС,**
**Анатоль РОГАЧ.**
**З новай кнігі "Нарачанскі край: ад Спяглянкі да Вяллі".**
**Заканчэнне будзе.**

**Даведка "РГ". Сымон Вікенцьевіч Барыс,** 20 мая 1937, в. Касічы Вілейскага раёна – педагог, журналіст, фалькларыст, этнограф, гісторык, краязнаўца. Закончыў гістарычна-філалагічны факультэт Наўгародскага педагагічнага інстытута (1965), аспірантуру пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Ад 1977 года жыве ў Мінску. Апублікаваў некалькі кніг, звыш 50 артыкулаў па праблемах фальклору, этнаграфіі і культуры. Аўтар "Рэгіянальнай газеты". Член Саюза беларускіх пісьменнікаў.

**Даведка "РГ". Анатоль Валянцінавіч Рогач** (1 чэрвеня 1947, в. Каралеўцы, Вілейскі раён – 3 сакавіка 2010, Вілейка) – беларускі краязнаўца, даследчык гісторыі Беларускага Павілля. Ад 1967 года працаваў у Вілейскім раёне электрычных сетак (РЭС), дзе прайшоў шлях да кіраўніка прадпрыемства. Узначальваў РЭС з 1988 года. У 1972 годзе скончыў завочна Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі. Спалучаў вытворчую дзейнасць з краязнаўчай. Быў пастаянным аўтарам "Рэгіянальнай газеты".

● КАЛЯНДАР

29 КАСТРЫЧНІКА

**1996 год.** У Празе (Чэхія) на Градчанах устаноўлены помнік Францішку Скарыну (скульптар Астаф'еў), а на будынку нацыянальнай чэшскай бібліятэкі Клеменцінум – памятная дошка ў гонар беларускага першадрукара (скульптар Алесь Дранец).

**10 гадоў** назад (2006) у Жлобіне памёр Мікола Канаш, беларускі дзеяч, вязень ГУЛАГу, адзін з бліжэйшых сяброў Ларысы Геніюш, з якой пасябраваў менавіта ў лагеры. Нарадзіўся на Браслаўшчыне ў 1926 годзе. У часе вайны прыехаў вучыцца ў Паставы. За вучобу ў беларускай семінарыі і ўступленне ў Саюз беларускай моладзі атрымаў 25 гадоў зняволення ў канцлагерах. Адбываў пакаранне ў Інце Комі АССР. Там у 1956-м, пасля таго, як яго датэрмінова вызвалілі, але не дазволілі вярнуцца на радзіму, працаваў у шахце. І там жа пазнаёміўся з легендарнай паэткай Ларысай Геніюш і са сваёй будучай жонкай, украінкай Соф'яй, якая таксама была асуджаная за нацыянальныя погляды на 25 гадоў. Агульныя ідэі з'яднала на ўсё жыццё, і ўсё жыццё яны ў сям'і размаўлялі кожны на сваёй роднай мове.

30 КАСТРЫЧНІКА

**Дзень палітзняволеных** (Дзень памяці ўсіх ахвяр рэпрэсій).

**1921 год.** У Мінску заснаваны Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

**80 гадоў** назад (1936) памёр Фердынанд Рушчыц, беларускі і польскі мастак, педагог, графік, тэатральны дэкаратар. Нарадзіўся ў маёнтку Багданава Ашмянскага павета, цяпер Валожынскі раён. Пахаваны на мясцовых могілках.

2 ЛІСТАПАДА

**Дзяды, дзень памінання памерлых.**

3 ЛІСТАПАДА

**75 гадоў** назад (1941) каля Уральска (Казахстан) памёр Змітрок Бядуля, пісьменнік, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху. Пахаваны ва Уральску.

***

**150 гадоў** таму (1866) узведзеная Свята-Іосіфаўская царква ў вёсцы Гарадзілава (Маладзечанскі раён).

**145 гадоў** таму (1871) быў узведзены храм у гонар Палажэння рызы Прысвятой Багародзіцы ў Влахерне ў Груздаве (Маладзечанскі раён).

**855 гадоў** з часу стварэння (1161) "Крыжа Ефрасінні Полацкай", выдатнага помніка старажытнага мастацтва Беларусі.

**475 гадоў** з часу абвяшчэння (1541) лясоў Белавежскай пушчы паляўнічым заказнікам, першым на тэрыторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**



Электрагазазваршчык – прафесія з самымі частымі выпадкамі прафесійных хвароб. Фота ib-t.by.

## У якіх прафесіях найчасцей сустракаюцца прафесійныя хваробы

МАЛАДЗЕЧНА

**Галоўная каштоўнасць любога прадпрыемства – здаровы, энергічны і працаздольны калектыў.**

І менавіта на захаванне здароўя і папярэджанне прафесійных захворванняў накіраваныя абавязковыя медыцынскія агляды.

Закон "Аб ахове працы" прадугледжвае абавязак наймальніка арганізаваць правядзенне абавязковых папярэдніх (пры паступленні на работу), перыядычных (на працягу працоўнай дзейнасці) і перадзменных (перад пачаткам працы, змены) медыцынскіх аглядаў. Альбо агляду некаторых катэгорый работнікаў на стан алкагольнага, наркатычнага ці таксічнага ап'янення. Таксама пазачарговыя медыцынскія агляды пры пагаршэнні стану здароўя.

Наймальнік абавязаны не дапускаць да працы, адхіляць ад працы ў адпаведны дзень ці змену работніка, які не выкарыстоўвае сродкі індывідуальнай абароны ці не прайшоў медагляд.

Асобы, вінаватыя ў парушэнні заканадаўства ў галіне санітарна-эпідэміялагічнага дабрабыту і аховы працы нясуць адказнасць у адпаведнасці з законам.

У апошнія гады на прамысловых прадпрыемствах не надаецца належная ўвага выкананню санітарнага заканадаўства, у тым ліку і забеспячэнню абавязковых медаглядаў. За дзевяць месяцаў на ўсіх 36 прамысловых прадпрыемствах, ахопленых планавымі мерапрыемствамі, знайшлі шматлікія парушэнні санітарных правіл.

Аналагічная карціна была і ў 2014 – 2015 гадах. Пры гэтым колькасць прадпрыемстваў, дзе былі парушэнні, няўхільна расце. У 2014 годзе на 30-ці з 38-мі правераных у планавым парадку прадпрыемствах былі тыя ці іншыя парушэнні арганізацыі медыцынскіх аглядаў. У 2015 годзе на 41-м прадпрыемстве з 50-ці правераных. Гэты факт не можа не выклікаць трывогу.

Сёлета за дзевяць месяцаў па выніках толькі планавых праверак за парушэнні санітарных правілаў прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці 9 юрыдычных асоб, 19 службовых асоб і 22 кіраўнікоў прадпрыемстваў. Сума штрафаў – 7 728 дэнамінаваных рублёў.

Вядома, не ўсе кіраўнікі безадказна ставяцца да стварэння здаровых і бяспечных умоў працы.

Работа па прафілактыцы прафесійных хвароб дазволіла стабілізаваць сітуацыю ў Маладзечанскім раёне. У 2013 – 2015 гадах зарэгістравалі па адным прафесійным захворванні ў год, у 2016 годзе пакуль не зарэгістравана.

**Асноўны "пастаўшчык" прафзахваральнасці ў раёне – Маладзечанскі завод металаканструкцый, а лідарам сярод прафесій – электрагазазваршчык.**

На прамысловых прадпрыемствах даволі высокая колькасць працоўных месцаў, дзе вытворчыя фактары не адпавядаюць гігіенічным нарматывам і ўмовы працы адносяцца да шкодных. Хіба не павышае рызыку захварэць спалучэнне няякасных медаглядаў і недастатковых мер абароны ад шкодных наступстваў? Ці не вернемся мы ў канец 80-х, калі ў Маладзечанскім раёне рэгістравалі 8-10 выпадкаў прафзахворванняў на год?

Кансультацыю па пытаннях санітарна-эпідэміялагічнага заканадаўства, у тым ліку і арганізацыі абавязковых медаглядаў, наймальнікі ўсіх формаў уласнасці могуць атрымаць у Маладзечанскім занальным ЦГЭ па тэлефоне (80176) 500-526 або задаўшы пытанне на сайце ўстановы cgemolodechno.by.

**Кацярына ФІЛІПОВІЧ, загадчыца аддзялення гігіены працы Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

# Суд: кожны пяты развод заканчваецца прымірэннем

МАЛАДЗЕЧНА

**– Нягледзячы на тое, што гэта невялікі працэнт ад агульнай колькасці разводаў, –**



Фота verywell.com

Суд не скасоўвае шлюбы, калі ў мужа ці жонкі няма згоды на скасаванне шлюбу альбо ёсць прэтэнзіі на маёмасць.

заўважае намеснік кіраўніка суда Маладзечанскага раёна **Дзмітры Сіняўскі**. – Але суд паспрыяў таму, каб сям'я не распалася.

Пры першапачатковай падачы заявы мужу і жонцы даецца тры месяцы на тое, каб памірыцца. Аднак, калі на пасяджэнні бачна, што пара можа прыйсці да паразумення, суддзя дасць дадатковы тэрмін у шэсць месяцаў. У большасці выпадкаў, гэта спрыяе таму, каб сям'я памірылася.

– Суд не скасоўвае шлюбы паміж мужам і жонкай, якія маюць дзяцей да 18 гадоў, калі ў мужа ці жонкі няма згоды на скасаванне шлюбу альбо ёсць прэтэнзіі на маёмасць, – адзначае Дзмітры Сіняўскі.

Асноўнымі прычынамі, па якіх суд можа не скасаваць шлюб: адсутнасць пісьмовай згоды на скасаванне шлюбу аднаго з бакоў, ёсць сумеснае дзіця да трох гадоў альбо жонка цяжарная.

Асноўнымі прычынамі разводу называюць бытавыя праблемы, канфлікты ў сям'і.

– Апошнюю прычыну часта ўказваюць жанчыны, – расказвае намеснік кіраўніка суда. – Калі пачынаем пытацца, то расказваюць, што муж не ўдзяляе належнай увагі, некаторыя мужчыны прыкладаюць руку. Часта канфлікты ўзнікаюць, калі ў сям'і нараджаецца дзіця, не хапае грошай, увага жанчыны пераключаецца на немаўля, пачынаюцца спрэчкі.

Насуперак распаўсюджанаму меркаванню, што асноўная прычына разводаў – здрада, гэта не так.

– У большасці выпадкаў людзі называюць агульную фармуліроўку "страцілі каханне" і не называюць сапраўдных прычын, – адзначае Дзмітры Сіняўскі. – Аднак, калі пачынаем пытацца падчас судовага пасяджэння, то з некаторых выказванняў можна зразумець, што падставай для разводу стала менавіта здрада.

Як адзначыў намеснік кіраўніка суда, большасць разводаў прыпадае на сем'і, якія пражылі ў шлюбе 10-15 гадоў.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

### Развод у лічбах

**463** – столькі спраў на скасаванне шлюбу ў судзе за восем месяцаў 2016 года.

**390** – такая колькасць спраў на скасаванне шлюбу паміж мужам і жонкай, якія маюць непаўналетніх дзяцей.

**54** справы спыненыя, таму што муж і жонка памірыліся.

**4** справы не разгледжаныя – бакі не з'явіліся ў суд.

**240** спраў былі разгледжаны за 8 месяцаў 2016 года, іскі былі задаволеныя.

**84** рублі (4 базавыя велічыні) – столькі каштуе пошліна за скасаванне першага шлюбу.

**168** рублёў (8 базавых велічынь) – такая пошліна за скасаванне другога і паўторнага шлюбаў.

На 1 студзеня 2016 года ў судзе было **167** неразгледжаных спраў. Гэта абумоўлена тым, што на прымірэнне даецца мінімум тры месяцы з дня падачы заявы. А заявы на скасаванне шлюбу маглі падаць і ў канцы снежня.

# Вілейскую ЖКГ пакаралі за парушэнні і неэфектыўнасць

ВІЛЕЙКА

**Падчас праверкі жыллёва-камунальнай гаспадаркі дзяржкантроль знайшоў парушэнні.**

Цягам 2013 – 2015 гадоў прадпрыемства не ў поўным аб'ёме выконвала даведзеныя паказчыкі сацыяльна-эканамічнага развіцця. Крэдыторская запазычанасць ад студзеня 2014 да сёлетняга сакавіка вырасла ў 5,2 раза. А дэбіторская – у 3,3 раза.

Арганізацыя не надавала патрэбнай увагі выкананню дзяржаўнага заказу пры здачы адходаў паперы і кардону, лому і адходаў чорных металаў.

Звыш зацверджаных нормаў выкарыстоўвалі кацельна-пячное паліва, цеплавую і электрычную энергію. Налічэнне амартызацыі па нявыкарыстаных асноўных сродках дазволіла прадпрыемству незаконна атрымаць 43 тысячы рублёў субсідыі.

Не было нормаў расходу паліўна-энергетычных рэсурсаў на прыём і падачу вады, прапампоўванне і ачыстку сцёкаў у Іллі.

Бюджэтную пазыку больш чым на сем тысяч рублёў, выдзеленую на папаўненне абаротных сродкаў, выкарысталі не па прызначэнні. Каля трох тысяч рублёў асвоілі неэфектыўна – на незапатрабаваную праектна-каштарысную дакументацыю.

**Больш за тры гады Вілейская ЖКГ не прымае мер па вяртанні ў абарот лазні ў вёсцы Чаромушкі і кацельні ў Вілейцы.**

Праверка заўважыла факты будаўніча-мантажных работ без праектна-каштарыснай дакументацыі. Таксама аб'екты пачыналі працаваць без прыёмкі ў належным парадку.

Напрыклад, без актаў уводу працаваў кацёл на кацельні па вуліцы Дабравольскага, тры мадэрнізаваныя ўчасткі на цеплатрасе.

Па выніках праверкі да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнулі 18 работнікаў, да адміністрацыйнай – сем службовых асоб на тысячу рублёў. Прадпрыемства атрымала штраф на восем тысяч рублёў. У бюджэт забралі 62 тысячы.

Матэрыялы праверкі накіравалі праваахоўным органам.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

# Не губляй ніводнага дня

**26 кастрычніка мы распачалі галасаванне за пераможцу акцыі "Не губляй ніводнага дня".**

У межах гэтай акцыі мы запрасілі чытачоў дасылаць нам фота з тымі момантамі, якія найбольш запомніліся за год. У конкурсе атрымаем двух пераможцаў.

Аднаго абяруць па выніках галасавання на сайце rh.by. чытачы. Работы другога ацэняць работнікі рэдакцыі і размесцяць здымак на фірменным календары на 2017 год.

**У акцыі прыняло ўдзел 53 чалавекі, усяго мы атрымалі 340 фоздымкаў.**



Фота трайнятак даслала іх мама Крысціна Кірычэнка. Дзетак завуць Ульяна, Яраслаў і Яна.



Сяргей Жукавец даслаў фота сваёй сям'і.



Таццяна Аўтушка прыслала здымак, на якім зафіксавала сапраўдную любоў.

Абодва пераможцы атрымаюць ад рэдакцыі смартфоны. Іх імёны мы назавём 31 кастрычніка. Сачыце за нашым сайтам.

А ў сённяшнім нумары мы прапануем паглядзець некаторыя з дасланых здымкаў. Частку фатаграфій мы будзем друкаваць і пасля конкурсу пад адмысловай рубрыкай "Не губляй ніводнага дня!".

**Аддзел інфармацыі.**



Анастасія Сянько з хрэснікам Радзівончыкам.



Вікторыя Зінкевіч з Вілейкі даслала здымкі прыгожай прыроды.



Таццяна Банковіч з Маладзечна падзялілася пазітыўнымі фатаграфіямі.




## Змагаемся з жаданнем з'есці салодзенькага

МАЛАДЗЕЧНА

**"РГ" сумесна з фітнес-клубам "Тытан" запусціла праект "Зорка з трэнажоркі". Цягам трох месяцаў у газеце трэнер дае парады, як пахудзець, а я, слухаючыся яго ва ўсім, праверу парады на сабе.**

Слова, якое я чую часцей за іншыя цягам гэтых двух тыдняў, – гэта слова "нельга".

Нельга салёнага, нельга смажанага, нельга салодкага, нельга прапускаць трэніроўкі, нельга засмучацца, што эфект не такі хуткі, як хацелася б.

Асабліва сумна ад таго, што нельга салодкага, асабліва такім халодным, восеньскім надвор'ем.

Але трэнер **Руслан Дунец** ведае, як падмануць арганізм.

Па-першае, раіць Руслан, калі хочацца салодкага, трэба пераключыць думкі. Не, ну натуральна, што салодкага хочацца не ад голаду, а ад таго, што нешта засмуціла, ад стомленасці. Ды мала ад якіх яшчэ прычын. Дык вось: самы спартыўны метад змагацца са сваім мозгам – гэта зрабіць 20-30 прысяданняў. І для здароўя карысна, і ад думак ад салодкага адцягне.

Па-другое, страўнік свой таксама можна падмануць, калі развесці некалькі лыжак клятчаткі ў шклянцы вады і выпіць гэта. Калорый 0, а страўнік запоўнены.

Нашы чытачкі Ганна і Наста. Ганна пытаецца, якія расцэнкі ў "Тытане", а Настасся цікавіцца:

– Жыву ў вёсцы Вілейскага раёна, да горада няма магчымасці дабрацца, а хочацца падтрымліваць сябе ў форме. Што можаце параіць? Ці можна дамашнімі трэніроўкамі замяніць заняткі ў трэнажорцы?

На пытанне Настассі Руслан адказаў:

– Насамрэч існуе безліч практыкаванняў, якія можна выконваць без спецыяльных прыладаў, трэнажораў. Адзінае, што трэба ведаць, гэта якія практыкаванні і ў якім аб'ёме выконваць. Таму я магу Настассі параіць прыязджаць у "Тытан" хаця б раз-два на месяц, каб трэнеры склалі праграму, па якой можна будзе займацца дома.

Што датычыцца цэн на паслугі трэнажорнай залы "Тытан", то яны наступныя:

абанемент на год каштуе 353 рублі (або 3 530 000),

абанемент на паўгода – 214 рублёў (або 2 140 000).

У гэту суму ўваходзіць шмат прыемных "бонусаў", такіх, як заняткі з трэнерам, наведванне саўны, вымярэнне складу цела і іншыя.

Што магу дадаць ад сябе, дык тое, што "Тытан" працуе кожны дзень ад 8 раніцы да 11 гадзін вечара. Таму, калі вы маладзечанец, то не паляніцеся і прагуляйцеся да клуба "Тытан". Прафесійная кансультацыя гарантавана.

На наступным тыдні падводзім вынікі трохтыднёвых трэніровак.



# У суботу "Маладзечна-ДЮСШ-4" згуляе апошні матч сезона

**Апошнюю дамашнюю гульню сезона каманда "Маладзечна-ДЮСШ-4" згуляе ў суботу, 29 кастрычніка.**

Калі каманда пераможа, яна гарантавана атрымае пуцёўку ў першую лігу чэмпіянату Беларусі, упершыню за 12 гадоў.

Пры гэтым, у мінулым годзе адной з прычын таго, што маладзечанская каманда не трапіла ў першую лігу, было недастатковае фінансаванне.

Трэба адзначыць, што ўступны ўзнос для ўдзелу ў першай лізе складаў 12 000 (120 мільёнаў) рублёў.

Сёлета першы намеснік старшыні федэрацыі футбола **Сяргей Сафар'ян** у адным з інтэрв'ю сказаў, што федэрацыя футбола мае намер вызваліць клубы ад грашовых узносаў для ўдзелу ў чэмпіянаце Беларусі.

– Трэба пабудаваць працу федэрацыі, маркетынгавую перш за ўсё, такім чынам, каб звесці практычна да нуля заявачныя ўзносы клубаў, – падкрэсліў Сяргей Сафар'ян.

Будзем трымаць сініцу ў руках

Намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Мікалай Шрымф** балельшчыкаў абнадзеіць не спяшаецца.

– Шанец на першую лігу хлопцы-футбалісты зарабілі сабе самі. Цяпер паўстае пытанне, за якія грошы гэта рабіць.

Мікалай Уладзіміравіч падкрэслівае, што пытанне гэта вельмі сур'ёзнае, ёсць прапановы, ёсць напрацоўкі. Пра штосьці канкрэтнае Мікалай Шрымф не гаворыць.

– Не будзем хапацца за жураўля ў небе, будзем надзейна трымаць сініцу ў руках. Каманда гуляла ў гэтым сезоне прыгожа, годна, стабільна, без істэрык. Хлопцы змаглі сябе паказаць.

Мікалай Шрымф падкрэсліў, што дзеля гэтага і гуляе каманда "Маладзечна-ДЮСШ-4".

– Перспектыва каб была ў хлопцаў, каб іх заўважылі ў іншых клубах, каб яны маглі рухацца далей.




Пры гэтым вядуцца перамовы і з камандай вышэйшай лігі, з "Іслаччу", пра тое, што маладзечанскі стадыён і на наступны сезон застанецца дамашнім стадыёнам каманды.

Без футбола маладзечанцы не застануцца.

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

## "Смаргонь" перамагла "Хімік" і згуляла ўнічыю з "Гомелем"

СМАРГОНЬ

"Смаргонь" 16 кастрычніка атрымала перамогу ў чэмпіянаце першай лігі чэмпіянату Беларусі па футболе. Каманда прымала "Хімік" са Светлагорска.

Смаргонцы прапусцілі першымі ўжо на 6-й хвіліне. Але потым забівалі толькі яны. Праз шэсць хвілін вызначыўся **Максім Яблонскі**. На 22-й хвіліне пасля заціжнога розыгрышу вуглавога на далёкай штанзе замкнуў перадачу **Сяргей Валкарэзаў**. А на 31-й хвіліне **Аляксандр Клешчанок** апярэдзіў варатара на выхадзе, галавой забіў гол і ўстанавіў канчатковы вынік 3:1.

У наступным туры "Смаргонь" гуляла ў гасцях з лідарам чэмпіянату, "Гомелем". Матч прайшоў 23 кастрычніка ў Гомелі і скончыўся нулявой нічыёй.

Галоўны трэнер "Гомеля" **Уладзімір Журавель** пракаментаваў прэс-службе клуба вынікі матча:

– Момантаў было нямала, але, як ні парадаксальна, на табло мы бачым нулі... Увесь другі тайм мы практычна цалкам правілі на чужой палове поля, але не хапіла забітага мяча і крэатыву ў атацы. Адчуваўся недахоп на полі траўмаваных хлопцаў... Трэба адзначыць і сапернікаў. "Смаргонь" – вельмі арганізаваная каманда.

Яна займае сёмае месца у турнірнай табліцы. На рахунку каманды 34 ачкі.

## Два пройгрышы "Ашмян"

АШМЯНЫ

"Ашмяны" 16 кастрычніка прымалі магілёўскі "Днепр" – каманду, якая ўпэўнена займае другое месца ў чэмпіянаце.

"Ашмяны" прайгралі 0:3. Адзін гол ашмянцы прапусцілі у першым тайме і яшчэ два – у другім.

22 кастрычніка "Ашмяны" гулялі ў гасцях з "Промнем" з Мінска. Ашмянцы прайгралі 2:5. У іх складзе галы ў другім тайме забілі **Кірыл Леановіч** і **Павел Лоўгач**. Пасля гола Паўла на 61-й хвіліне лік стаў роўным 2:2. Але потым "Ашмяны" прапусцілі яшчэ тройчы.

На рахунку "Ашмянаў" шэсць ачкоў і апошняе месца ў турнірнай табліцы.

## "Вілія" скончыла чэмпіянат дзясятай

ВІЛЕЙКА

Вілейская "Вілія" ў чэмпіянаце Мінскай вобласці па футболе 16 кастрычніка зноў гуляла ў гасцях – з "Лівадзіяй-Юні" з Дзяржынска. "Вілія" адкрыла лік у першым тайме – гол забіў **Міхаіл Кулеш**. На што гаспадары адказалі двума галамі – па адным у кожным тайме.

У апошнім туры "Вілія" 23 кастрычніка нарэшце згуляла дома супраць чэрвеньскага "Коласа". Ад выніку матча турнірнае становішча "Віліі" ўжо не залежала. Падняцца вышэй "Вілія" не магла: ва "Узды", што ішла дзявятай, было 29 ачкоў. Гэтак жа вілейчане не маглі б апусціцца на прыступку ніжэй – у парасленніка было на пяць ачкоў менш.

Але футбалісты "Віліі" халодным днём парадавалі заўзятараў перамогай з лікам 1:0. Гол у першым тайме забіў **Максім Чабрыцкі**.

Каманда з Вілейкі з 26 ачкамі заняла 10-е месца. За турнір атрымала восем перамог, дзве нічые і 12 паражэнняў. Розніца мячоў: 26-48. Пераможцам чэмпіянату Мінскай вобласці стала каманда "Зорка-Вікторыя" з Пухавіцкага раёна.

## У Мядзеле стартаваў турнір па міні-футболе

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

Міжрэгіянальны турнір па міні-футболе распачаўся ў Мядзеле. За званне найлепшай змагаюцца сем камандаў: з Мядзельскага, Вілейскага і Пастаўскага раёнаў. Вілейшчыну прадстаўляюць каманды: "Шылавічы" і "Вілейка".

У першым туры 22 кастрычніка прайшлі тры гульні. Як паведамле суполка "ЗОЖ Мядзельшчыны" "Укантакце", гульні скончыліся так: "Мядзел"-"Вілейка" – 4:6, "Зубраня"-"Шылавічы" – 3:5, "ФОЦ"-"Паставы" – 2:2.

Пасля першага туру дзве каманды з Вілейшчыны ўзначалілі турнірную табліцу. "Вілейка" ідзе першай з-за большай колькасці забітых галоў.

**Аддзел інфармацыі.**

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Паспейце на выставу плакатаў “Краіна вынаходнікаў – Германія”

## Выстава працуе ў Мінску да 31 кастрычніка

Прыродазнаўчанавуковыя вынаходніцтвы з Германіі, якія ўразілі свет. Выстава гістарычных адкрыццяў і будучых інавацый.

Камп’ютар, тэлефон, тэлевізар, рэнтгенаўскія промні ці аўтамабіль – гэтыя наватарскія нямецкія вынаходніцтвы трывала ўвайшлі ў побыт людзей усёй планеты.

Выставу плакатаў дапаўняе інтэрактыўны сайт з гульнямі, фільмамі і матэрыяламі для заняткаў па нямецкай мове, а таксама інфармацыя пра вучобу і навуковыя даследаванні ў Германіі.

Выстава праходзіць у Мінску ў інстытуце імя Гётэ на чацвертым паверсе. Адрас: вуліца Веры Харужай, 25/3.

### Тыдні Германіі

Выстава праходзіць у межах тыдняў Германіі, якія сталі добрай традыцыяй за апошнія 10 год. Падчас іх любы ахвотны можа пазнаёміцца з культурай, мовай і грамадствам Германіі.

Сёлета праграма адрознівалася разнастайнасцю. Сярод мерапрыемстваў – кінапаказы, тэатральныя пастаноўкі, канцэрты, паэтычны слэм, літаратурны калаж, аўтарскія чытанні, выставы, майстар-класы. Для кожнага было нешта на яго густ.

Былі і такія мерапрыемствы, як інтэрактыўная выстава “Экамысленне – вучымся ў прыроды”, гульні па краіназнаўстве, паказ нямецкага кіно, квэст для дзяцей.

На выставе “Экамысленне – вучымся ў прыроды” творча падышлі да актуальных пытанняў. Вада, агонь, зямля і паветра – без іх не было б жыцця. Людзі разумеюць гэта і выкарыстоўваюць для сваіх патрэб. Менавіта выкарыстанне чалавекам гэтых чатырох стыхій знаходзіцца ў вытоках прагрэсу. Але дзе ж мяжа развіцця? Пасля таго, як у шматлікіх рэгіёнах быў згублены і часткова беззваротна страчаны прыродны баланс, надышоў час для пераасэнсавання. Мэтай выставы было жаданне абудзіць цікавасць у маладых людзей да экалагічнай тэматыкі. Кожнай з гэтых стыхій – вада, агонь, зямля і паветра – прысвячалі асобны тэматычны раздзел. Выстава дала магчымасць асэнсаваць мінулае, паказвала сучаснасць і кідала позірк у будучыню. Інавацыйныя тэхналогіі пацвярджаюць, што прагрэс і ахова навакольнага асяроддзя не супярэчаць адзін аднаму.

Літаратурны калаж “Нянавісць – гэта недахоп фантазіі” адкрыў іншы бок культуры. Людзі мастацтва Аліса Герц-Зомер, Георг Кафка, Паўль Арон Зандфорт, Леа Штраус, Віктар Ульман і Ільза Вебер, якія былі вязнямі канцлагера Тэрэзіенштадт – Тэрэзінская гета, знайшлі свой спосаб супрацьстаяць пагардзе да людзей і нянавісці, якую Грэм Грын надзвычай дакладна ахарактарызаваў як „недахоп фантазіі“. Сваім мастацтвам яны аспрэчвалі заявы нацыстаў, што яўрэі – недачалавекі і таму няздольныя ствараць культуру. І якраз іх тэксты могуць стаць для нас крыніцай сілы і мужнасці, патрэбных, каб спыніць спіраль нянавісці і гвалту.

Тыдні Германіі ладзіць Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія разам з германскімі пасярэднікамі і арганізацыямі ў галіне культуры ў Беларусі ў супрацы з беларускімі партнёрамі.

**Паводле паведамлення Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія.**

Пасольства ФРГ у Беларусі. УНП 101166185.

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | | | 5 | | | | 4 |
| 5 | | | 1 | | | 6 | 3 | |
| | | 1 | 3 | | 6 | | | |
| | | | | | 3 | 5 | | 8 |
| | | | 9 | | 7 | | | |
| 9 | | 4 | 2 | | | | | |
| | | | 5 | | 1 | 3 | | |
| | 9 | 8 | | | 2 | | | 5 |
| 4 | | | | 3 | | | | 6 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.





# Дашлі фотаздымак кухні – атрымай рамантычную вячэру на дваіх у “Блюзе”

**Калі вы можаце бясконца расказваць пра кожную дэтальку ў вашай кухні, дзяліцца ўспамінамі, як рабілі рамонт, колькі ўклалі ў гэты пакой душы, тады конкурс “А ў маёй кухні…” прыйдзецца вам даспадобы.**

Для таго, каб стаць удзельнікам, вам дастаткова даслаць фотаздымак сваёй кухні альбо самых любімых рэчаў. І прыкласці невялічкае апавяданне, чым адметны гэты пакой, як рабілі рамонт у ім, альбо гісторыю самага запамінальнага выпадку, звязанага з кухняй.

Мы можам палегчыць вам задачу. Калі ваша кухня настолькі адметная, што вы хочаце, каб пра яе напісалі мы, запрашайце на каву. Будзем уражваць вашым дзецішчам іншых чытачоў.

**Фотаздымкі можна дасылаць да 25 лістапада. У панядзелак, 28 лістапада, на сайце “Рэгіянальнай газеты” пачнецца галасаванне за лепшую кухню. Яно будзе закрытае 2 снежня. Той, хто набярэ найбольшую колькасць галасоў, і стане пераможцам.**

Ён атрымае галоўны прыз – падарачны сертыфікат на суму 30 рублёў (300 тысяч недэнамінаваных рублёў) ад кафэ “Блюз”. Сертыфікат дае магчымасць заказаць стравы на свой густ. Пераможцу чакае вячэра пры свечках, прыемная музыка.

Дзякуючы сертыфікату вы можаце самастойна выбраць дзень, у які запросіце спадарожніцу альбо спадарожніка акунуцца ў рамантычную атмасферу. Толькі неабходна будзе загадзя ўзгадніць час з адміністратарам.

За другое месца мы гарантуем сямейную альбо індывідуальную фотасесію ад фатографа-пачаткоўца **Яўгена Чарнышова**.

**Аддзел інфармацыі.**



# “Мова Нанова” у пасёлку Беразінскае шукае вядучых

МАЛАДЗЕЧНА

Жыхары пасёлка Беразінскае, што на Маладзечаншчыне, вырашылі ладзіць свае ўласныя курсы беларускай мовы “Мова Нанова”.

Усё, што трэба для таго, каб збірацца раз на тыдзень і вучыць мову, у беразінцаў ёсць.

Мясцовы ксёндз прапанаваў памяшканне, у якім ёсць сталы, крэслы, дошка. Ёсць нават і кухня, каб падчас заняткаў можна было папіць гарбаты.

Адзінае, чаго няма – гэта вядучых. Людзей, якія гатовыя прыязджаць або прыходзіць раз на тыдзень у Беразінскае, каб праводзіць заняткі. Патрабаванні простыя – ведаць і любіць беларускую мову і мець жаданне дзяліцца сваімі ведамі з іншымі.

Калі вас прапанова зацікавіла, звяртацца па падрабязную інфармацыю можна па тэлефонах: **(8033) 313-38-65, (8044) 519-66-46** (Алеся).

**Аддзел інфармацыі.**



● ГАРАСКОП
28.10.16 – 3.11.16



**Авен.** Калі наваліўся груз праблем і клопатаў, то не адчайвайцеся. Іх меней не стане, але з’явіцца магчымасць усё давесці да розуму.



**Цялец.** Вы будзеце рашучыя і непахісныя, што дазволіць вам зламаць любое знешняе супраціўленне на шляху да вашай мэты.



**Блізняты.** Вы жывяце ў сваім уласным свеце, поўным перажыванняў і дэпрэсіўнага стану. І не бачыце ў ім цудоўнага і светлага, бо любыя эмоцыі жорстка падаўляеце. Мяняйце светапогляд, выбірайцеся з абалонкі, і ўсё якасна зменіцца.



**Рак.** Не трацьце сваю энергію дарма, бо ў выніку барацьбы за чужыя мары, вы можаце цалкам выбіцца з сіл. Вы атрымаеце тое, што ёсць у іншых, але зусім не тое, што трэба вам.



**Леў.** Вельмі моцна праявіцца ваш уладны характар. Накіраванасць вашай думкі і непахіснасць дазволіць вам вырашыць многія пытанні і дасягнуць патрэбнага выніку.



**Дзева.** У вас ёсць шанс змяніць свой лёс, накіравашь яго ў іншае рэчышча. І дзейнічайце па імкненні сэрца, бо толькі ўнутранае чуццё дазволіць вам зрабіць той выбар, які прывядзе да дабрабыту.



**Шалі.** Прытрымайце свой запальчывы характар, бо рызыкуеце пасварыцца з-за дробязі з блізкімі людзьмі.



**Скарпіён.** Вам адчыняецца шлях у невядомае, але вы не ведаеце, куды ён прывядзе. Тут ёсць плюсы: вы не будзеце стаяць на месцы, зможаце рухацца наперад, да нечага новага, што будзе для вас карысным.



**Стралец.** У вас ёсць магчымасць скінуць груз мінулага і пачаць новае жыццё. Перад вамі адкрываюцца новыя перспектывы, прасторы, якія вы можаце лёгка асвоіць, калі захочаце.



**Казярог.** Вы адчуеце прыліў сіл. Ваша энергетыка дазволіць вам лёгка вырашаць любыя пытанні і дасягнуць пастаўленай мэты.



**Вадалей.** Цяпер вам па сілах практычна ўсё. І толькі вы можаце вырашыць, як будуць развівацца падзеі. Але не перагінайце палку ні ў адзін бок, ні ў другі.



**Рыбы.** Не перажывайце па дробязях. Жывіце спакойным жыццём. Радуйцеся таму, што адбываецца, і не задумвайцеся наперад.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
# Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 29 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +1 / +3 | | +5 / +6 | | +2 / +4 | | +1 / +2 | |
| | 745 | → 7 | 739 | ↘ 10 | 738 | ↘ 10 | 743 | ↓ 7 |
| Вільня | +3 / +5 | | +5 / +7 | | +3 / +4 | | +2 / +3 | |
| | 750 | ↗ 8 | 748 | ↘ 6 | 749 | ↓ 9 | 753 | ↓ 7 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.10
Захад 17.40
Даўжыня дня 9.30

Усход 6.20
Захад 17.40
Маладзік




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -8,8 °С у 1979 годзе
Максімальная тэмпература +13,4 °С у 2000 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 16,1 мм у 2004 годзе
Паводле meteoinfo.by

● ПАДПІСКА




А для тых, хто не прывык спяшацца, адкрытая падпіска на 2017 год.
Падпісацца на "Рэгіянальную газету" можна ва ўсіх паштовых аддзяленнях Беларусі.
Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).



## Чытайце праз тыдзень:

- **Ёга вучыць нас лепш спазнаць сваю душу і падтрымліваць сваё цела ў форме? Што ўключаюць у сябе заняткі? Што варта набыць, каб трэніравацца? Дзе вучацца спецыялісты, якія навучаюць гэтаму? Ці ёсць супрацьпаказанні? Даведваемся ў спецыяліста.**
- **Як жывуць і ствараюць літаратары рэгіёна? Ці не адчуваюць яны сябе адарванымі ад "вялікага" сталічнага літаратурнага жыцця? Ці магчыма сёння выдаць бясплатны зборнік вершаў і як у мамы траіх дзяцей хапае часу на творчасць? Гэтыя і іншыя пытанні абмяркуюць на "круглым стале" ў рэдакцыі літаратары рэгіёна.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Што вы робіце ў інтэрнэце?



**Надзея Старовіч, прадавачка:**
– У сацыяльных сетках гляджу фоткі сваіх сяброў. Яны раз'ехаліся па ўсім свеце. Яшчэ чытаю навіны.



**Настасся Пінчук, менеджар:**
– Сяджу ў сацыяльных сетках, правяраю пошту, чытаю "жоўтую" прэсу. Карацей, глупствам розным займаюся, калі на працу не хаджу.



**Алеся Савеня, бухгалтар:**
– Зарэгістраваная ў розных сацыяльных сетках. Размаўляю па скайпе. На працы часам таксама патрэбны інтэрнэт.



**Юры Сташук, студэнт:**
– Шукаю матэрыялы да экзаменаў, да курсавых. Шмат працую з праграмамі па апрацоўцы фотаздымкаў. Навіны гляджу. Кніжкі чытаю.



**Дар'я Казуліна, навучэнка:**
– Перапісваюся, гуляю, гляджу фільмы. Часам забаўляюся: то прычоску, то макіяж сабе падбіраю.



**Таццяна Часновіч, кантралёр-касір:**
– Не паверыце, але амаль што не карыстаюся інтэрнэтам. Часам разам з дзецьмі кіно ці фотаздымкі пагляджу.



**Лілія Яравая, прадавачка:**
– Гляджу навіны, чытаю газеты. Часам замаўляю па інтэрнэце адзенне для сябе і для дзяцей. Муж часта зазірае ў інтэрнэт, калі машыну рамантуе.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№44 (1122) 28.10.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1043. Падпісана ў друк у 9.00 27.10.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.